

Колеры шляху да Бога ➔ 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Юбілей Стэфана Рыбі ➔ 4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 44 (3207) Год LXII Беласток, 29 кастрычніка 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




# Такія іншыя іконы...

**Пэўна, прыхаджане не былі гатовыя да такога бачання сакруму. Гэта выходзіла за межы таго, з чым сустракаліся да гэтага часу, з чым былі блізка. Яны патрабавалі выдалення іканастаса ў Арэшкаве. Падобны лёс спасцігі дзве іконы ў райскіх дзвярах іканастаса царквы ў Кленіках — Дэісус і Апошнюю вячэру (1982) — яны не былі адобраны вернікамі. Ежы Навасельскі так запамятаў тую сітуацыю: «На праваслаўным Падляшшы, дзе б я ні спрабаваў зрабіць нешта, я сустрэў і сустракаюся з агульным неадабрэннем».**

У Гайнаўцы прафесар распрацаваў канцэпцыю архітэктурнага кшталту сабора Святой Тройцы (1979-1981), паводле якога Аляксандр Грыгаровіч выканаў архітэктурны праект. Калі б унутраныя фрэскі былі даручаны Навасельскаму, як гэта было ў першапачатковым плане (праект 1981 г.), узнікла б камплементарная рэалізацыя. Аднак, не дайшло да памалявання інтэр'еру ў карэляцыі да архітэктуры будынка. Тагачасны настаяцель а. Антоній Дзевятоўскі адмовіўся ад удзелу ў далейшай працы Навасельскага. Выдатная асоба, якая шанавалася не толькі сярод польскіх мастакоў, яшчэ раз сустрэлася з неразуменнем.

Ежы Навасельскі (1923-2011) нарадзіўся і памёр у Кракаве, многагадовы прафесар Акадэміі выяўленчых мастацтваў у Кракаве (1962-1993), ганаровы доктар Ягелонскага ўніверсітэта. Мастак, багаслоў, філосаф. Узнагароджаны Вялікім і Камандорскім крыжамі Ордэна Адраджэння Польшчы, Залатым медалём «Заслужаны для культуры Глорыя Арціс». Мастак сфарміраваны ў эпосе авангарднага мастацтва сягае па візантыйскі канон, фільтруе яго праз сваю адчувальнасць і свядомасць сучаснага чалавека. Ікона на аснове канону і раней так адважна трактавалася вялікімі творцамі.

Ежы Навасельскі, як адзіны польскі мастак, перанёс мову сучаснага мастацтва ў сферу сакруму. Цытуючы ксяндза прафесара Міхала Яноху, гэта стала магчымым таму, што «праваслаўе не страціла глыбокай сувязі мастацтва з прыгажосцю разуметай як тэалагічная катэгорыя». Таму мастак, як адзіны, мог у аўтэнтычны спосаб перанесці свет сучаснага мастацтва ў цэрквы і касцёлы (Себасцьян Крок).

**... І шкадую, што Ежы няма тут** — загаловак выставы ў музеі Альфонса Карнага ў Беластоку (21.10. — 20.11.2017 г.) пра невядомага Навасельскага — гэта цытата з ліста Тадэвуша Ружэвіча, адпраўленага з Сафіі ў кастрычніку 1975 г. да Зоф'і і Ежы Навасельскіх. Такі загаловак выставы майстра Лявона Тарасэвіча падказала яму Эва Залеўская з Музея ікон у Супраслі, аўтарка графічнага дызайну выставы.

Лявон Тарасэвіч:

— Калі хочаце, зразумець творчасць мастака, найлепш пазнаёміцца з яго працамі. Важныя працы. У работах, эскізах жывапісных рэалізацый да роспісаў цэркваў, праектаў іканастасаў ці фантастычных храмаў, якія ніколі не ўзніклі, і, верагодна, ніколі не ўзнікнуць, заключаецца ўся праўда пра мастацтва і веру Ежы Навасельскага. Менавіта таму гэта выстава з'яўляецца такой захапляльнай. Назва трапляе ў кропку. Я таксама шкадую, што Навасельскага няма тут, на Беласточчыне, у такім вымярэнні, у якім павінен быць. Хаця б Свята-Троіцкая царква ў Гайнаўцы — яго праекты былі ў пэўным сэнсе яе пачаткам. А бачыў яе ў васільковых танах. Царква была ажыццёўлена архітэктарам Аляксандрам Грыгаровічам з Познані. Але, верагодна, яны распрацавалі яе разам, яны былі сябрамі, так калісьці працавалася. Навасельскі канчаткова не напісаў паліхроміі ў Гайнаўцы. Калі я размаўляў пра гэта, яшчэ будучы студэнтам, з тагачасным святаром царквы ў Гайнаўцы, пачуў: «Не будзе маляваць у нас нейкі п'яніца» і ён паказаў палотны, якія, на яго думку, былі лепшыя і павінны былі быць прылеплены да сцяны. Я не быў у стане растлумачыць яму, што карціны нельга прыклейваць да сцяны, таму што паміж сцяной і палатном развіваюцца грыбы.



Тарасэвіч гатовы вярнуць гайнаўскай царкве паліхроміі запраектаваныя Навасельскім:

— Я прапаную свае паслугі, калі б толькі такая прапанова прагучала. Калі б толькі была згода гайнаўскай праваслаўнай супольнасці і епіскапа.

На выставе можна ўбачыць два праекты паліхромій гайнаўскай царквы (былі, відаць, варыянты ружовыя і жоўтыя). Ёсць акварэлі 1941 і 1947 гадоў. Ёсць рысунак партрэта архітэктара гайнаўскай царквы Грыгаровіча, які пазней паслужыў для напісання іконы святога Георгія. Ёсць эскізы незвычайнай царквы ў Белым Бары (Заходне-Паморскае ваяводства), якая мае незвычайную афарбоўку — цёмна-зялёны інтэр'ер, чорныя калоны, а іканастас мае інтэнсіўна чырвоныя элементы. На выставе таксама можна ўбачыць, у прыватнасці, шматколерныя эскізы паліхроміі выкананыя на партале перад праваслаўнай царквой па вуліцы Шпітальнай у Кракаве. Была створана адмысліва для вянца айца Генрыка Папроцкага ў 1977 годзе. Гэты праваслаўны святар, багаслоў і аўтарытэт на веданні ўсходніх літургій быў даўнім сябрам Ежы Навасельскага. Айцец Папроцкі падкрэслівае асаблівае месца рысунку ў працах Навасельскага. Нават невядома, колькі гэтых эскізаў было створана.

— Неўзабаве пасля заканчэння школы Ежы Навасельскі пачаў **«практыкаваць руку»**. Гэта было зроблена шляхам рысавання — найперш з дапамогай лінейкі, талеркі, трыкутніка рысаваў прамыя лініі, выгнутыя лініі, колы і трыкутнікі. Затым, пасля многіх месяцаў такіх штодзённых практыкаванняў, ён пачаў маляваць без дапамогі якіх-небудзь мерак. Ён дасягнуў у гэтым дзіўнае майстэрства, і крытыкі вынайшлі тэрмін «простая лінія Навасельская». Любы, хто меў прыемнасць бачыць, як прафесар малюе, а яшчэ лепш — працаваць з ім пры нейкай паліхроміі, быў не так моцна здзіўлены, а проста ашарашаны тым, што бачыў. Контуры будынкаў ці постацей, німбы, зморшчыны на шатах узнікалі з аднаго мазка. І заўсёды былі выдатныя, не патрабуючыя паправак, — адзначаў а. Папроцкі.

Прафесар усё жыццё «практыкаваў руку». Штодня паўставала, па меншай меры, некалькі малюнкаў, праектаў цэркваў, алтароў, запамятаных з прагулак будынкаў або пейзажаў. Гэта была велізарная праца, якую сам прафесар вельмі цаніў. Ён сказаў, што з дапамогай такіх практыкаванняў можна дасягнуць пэўны ўзровень вельмі карысны для малявання карцін або роспісаў.

Займаючыся творчасцю Ежы Навасельскага, трэба звярнуць увагу на рысункі, якія сам прафесар трактаваў вельмі сур'ёзна. Што мы можам убачыць дзякуючы прафесару Лявону Тарасэвічу, гэта толькі маленькая частка малюнкаў, зробленых Навасельскім. Добра, аднак, што гэта выстава ўвянчалася поспехам, таму што яна дазваляе адсочваць, як на працягу многіх гадоў прафесар рысаваў свае «лініі Навасельскія». Калі глядзім гэтыя малюнкі, мы ля вытокаў творчасці аднаго з найвялікшых мастакоў сучаснасці.

Скуль Навасельскі?

Ежы Навасельскі — мастак выключнага значэння ў польскім мастацтве. Бескампрамісны ў сваёй эстэтыцы жывапісу, народжанай з заглядзення ў ікону, можа больш «прасякнутай іконай». Як творца такога фармату, кракавянін, прафесар Кракаўскай Акадэміі прыгожых мастацтваў, незвычайная асоба, звязаная з авангардам, апынуўся ў нас на Падляшшы і абавязаўся выконваць працу для праваслаўнай царквы тут? Выбраў ён праваслаўе.

Нарадзіўся ў 1923 годзе ў Кракаве, у змешанай сям'і — маці каталічка з аўстрыйскім радаводам, бацька грэка-католік, лэмка. «Я вырас трохі пустэльнікам». У 1941 г. канчае 18 гадоў, становіцца студэнтам польска-нямецкай Дзяржаўнай школы прыкладнога мастацтва, якая, хоць прафесійная рамесная школа, абучае па акадэмічным курсе. Школу закрываюць у 1943 г., але Ежы знаходзіцца ўжо ў львоўскім уніяцкім манастыры студытаў на паслушанію, праце ў прыманастырскіх іканапісных майстэрнях, з патрабаваннем працы паводле старых візантыйскіх узораў. Страшныя падзеі ваеннага перыяду таксама адціснуліся на ўражлівасці мастака. Страшныя сведчанні ўплываюць на тое, што ёсць момант сумневу ў веры. Пасля ўваходзіць у мастацкае авангарднае жыццё. І раптам вяртаецца да веры. Выбірае праваслаўе.

**На Падляшшы — ад Гарадка**

У 50-я гады XX ст. Адам Сталёны-Дабжанскі прапануе Навасельскаму ўдзел у маляванні паліхроміі ў цэрквах і касцёлах. На Падляшшы працуюць разам над паліхроміяй царквы ў Гарадку. На самой справе Сталёны-Дабжанскі задае тон цэласці, а Навасельскі, Крысціна Звалінская, Тэрэса Рудовіч і Марыян Важэха з'яўляюцца выканаўцамі яго праекта. Створаная паліхромія ўражвае да сёння. Можна ўбачыць у гэтай паліхроміі руку розных мастакоў, але ў цэлым карціна ўнікальная. Прыём эстэтыкі, аднак, не быў такі відавочны, ад самага пачатку. Людзям было цяжка прывыкнуць да так «па-рознаму напісаных» постацей святых. Людзі выхаваныя з дзяцінства на эстэтыцы абразоў дзевятнаццатага стагоддзя ў неарасійскай манеры, спадзяваліся «харошых», рэалістычных малюнкаў. Але тут дапамагло благаславенне мітрапаліта Васіля, які падтрымліваў бачанне мастакоў.

Яшчэ некалькі разоў Навасельскі будзе працаваць на Падляшшы. Са Сталёны-Дабжанскім выканаюць вялікую паліхромію драўлянай царквы **ў Міхалове** (1954). Супольнай таксама будзе праца над паліхроміяй упрыгожваючай інтэр'ер неіснуючай Праабражэнскай царквы на святой **гары Грабарцы**. Малюнкі былі зроблены ў перыяд з 1961 па 1963 год пад кіраўніцтвам Сталёны-Дабжанскага. Навасельскі працаваў з Баляславам Алешкам. На жаль,

працяг ☞ 12





# Войска ці «зона»?

Найбольш рэзанансны падзеяй апошняга часу ў Беларусі стала гібель салдата тэрміновай службы Аляксандра Коржыча. Яго знайшлі павешаным у вайсковай часці ў Печах пад Менскам. Дзякуючы найперш незалежным медыям, якія так ненавідзяць дзяржаўныя структуры, узнялася дастаткова моцная хваля грамадскага абурэння. Настолькі, што ўпершыню за апошнія гады было пачата адразу некалькі крымінальных спраў, а з вайсковых пасад паляцелі гора-камандзіры. Нават начальнік дзяржавы, хоць і не сам асабіста, а праз прэс-сакратара, перадаў спачуванні сям'і загінуўшага хлопца. 10 чалавек, у тым ліку два афіцэры, узятыя пад варту і арыштаваныя. Не выключаю, што іх крымінальныя справы дойдуць да суда і некалькі чалавек справядліва прысудзяць да рэальных турэмных тэрмінаў зняволення. Хочацца верыць, што нешта пачнецца мяняцца ў гэтай прагнілай наскрозь вайсковай сістэме. Хочацца спадзявацца на гэта, але верыцца ў гэта слаба.

Галоўнае ў гэтай трагедыі тое, што ў XXI стагоддзі ў суверэннай краіне войска з'яўляецца не супольнасцю, аб'яднаных інтарэсам абароны Бацькаўшчыны людзей, а нейкай квазі-грамадой, фактычна турэмнай зонай, дзе дамінуе па сутнасці зэкаўская сістэма. Там здзекі „дзядоў" з маладых прызыўнікоў і нават іх катаванні з маўклівай згоды і нават „благаслення" афіцэрскага складу даўно сталі нормай. У выніку за апошнія дваццаць год ужо дзясяткі маладых салдат былі забітыя альбо даведзены да самагубства. Поўнай статыстыкі такой гібелі, на жаль, няма ў выніку замоўчвання шэрагу жахлівых гісторый.

Бацькі нашага пакалення расказвалі пра службу ў савецкім войску ў пасляваенны час як пра сапраўды сяброўскія дачыненні прызыўнікоў і старaслужбоўцаў, як апякунскія дачыненні паміж афіцэрамі і сяржанцка-шэраговым складам. Потым у армію з-за браку прызыўнікоў, народжаных у час Другой сусветнай вайны, сталі браць усіх запар, у тым ліку і тых, хто сядзеў у турмах і на зонах. Якраз гэтая катэгорыя прынесла ў войска і нестатутныя адносіны, і блатны зэкаўскі жаргон і ўнутраны падзел на „касты". Кіраўніцтва войска цудоўна ведала ад пачатку пра створаную сістэму „дзедаўшчыны", але прымала нейкія меры ў надзвычай рэдкіх выпадках.

У сярэдзіне васьмідзясятых гадоў мінулага стагоддзя давялося аддаць савецкаму „ацечаству" і мне два гады. Гэта цяпер беларуская дзяржава, якая павінна быць роднай, забірае ў нас гэтыя два гады з працоўнага стажу. Нібыта мы ўсе навыперадкі ляцелі ў тое войска, абы перапыніць сваю ўніверсітэцкую вучобу. Але цяпер не пра гэта. Пяць месяцаў прабыў я ў вучэбцы сувязі ў беларускай сталіцы Менску. Нейкіх жорсткіх здзекаў у нашай роце не было, але 5 месяцаў калектыўных і індывідуальных зняваг, прыніжэнняў з боку сяржантаў давялося нам перацярпець. Гэтыя сяржанты былі сапраўднымі маральнымі ўродамі, не зважаючы на іх нацыянальнасць — беларусы, расейцы, украінцы, усе як на падбор. Іншыя такой арміі былі проста непатрэбныя. Што яшчэ — спаць нам давалі вельмі мала, кармілі як апошніх сабак і нават не давалі з'есці тое, што належала. Пра баявую здольнасць такога войска і казаць сорамна. Адзін жаўнер НАТА ўрукапашную перабіў бы роту такіх змучаных паўгалодных салдацікаў-заморкаў. Але наша менская вучэбка была санаторным курортам у параўнанні з вучэбкай у Печах. Пра парадкі там расказвалі хлопцы, з якімі даводзілася перыядычна перасякацца. Выходзіць, што за трыццаць гадоў у тамтэйшай вайсковай часці нічога не змянілася. Не дзіва, што цяпер бацькі ўсімі спосабамі імкнуцца вызваліць сваіх сыноў ад службы ў тэрміновым войску.

Зараз з-за таго, што адкрылася так шмат праўды пра парадкі, а дакладней непарадкі ў вайсковых частках і ўзнялася хваля грамадскага абурэння, амаль адразу павылазілі на белы свет і кіраўнікі гэтага войска і нейкія „союзы офицеров". Яны пачалі крычаць пра мэтнае ачарненне нашай арміі, пра мэтную дыскрэдытацыю, нават пра ідэалагічны падрыў і таму падобную лухту. Толькі дзе былі гэтыя „офицеры", калі на пляцы беларускай сталіцы неаднаразова збіваліся мірныя жанчыны, моладзь, старыя? Чаму яны маўчаць і аддаюць „чэсць" на парадах малалетняму інфанту, апранутаму чамусьці ў вайсковую форму? Няма насамрэч у гэтых афіцэраў ні чэсці, ні гонару, ні сумлення. Бо гэта менавіта яны і такія, як яны, стварылі ў войску сапраўдную „зону".

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Люстэрка

Люстэрка, у якое я гляджу, не хлусіць. Я бачу перад сабой немаладога мужчыну Але і не старога. Ліберала з выбару, сацыял-дэмакрата па прыхільнасці, у рэшце рэшт, чалавека ўсведамляючага недасканаласці сваіх ідэалагічных сімпатый. Аднак, далёка не раз'юшанага ксенафоба, раба палітычнага патэрналізму і аўтарытарызму, якія здымаюць з яго абавязак думаць самому за сябе. Колькі з нас мае такую інтэлектуальную звычку? Калі не кожны, то тлумачыць гэта тым, што большасць польскага грамадства так лёгка «спісалася». ПіС са «сваім» патэрналізмам і аўтарытарнасцю, якія выклікаюць рэспект, менавіта ў адпаведнасці з менталітэтам большасці палякаў. І гэта, па-мойму, пасляпаншчынны менталітэт. У пераважнай частцы польская нацыя толькі эпідэрмальна вызвалілася ад улады «панскасці». Змены ў такім грамадстве, у большасці сялянскага паходжання, у рэшце рэшт, гэта доўгі працэс, які ажыццяўляецца на працягу многіх пакаленняў. За колькі? Цяпер, аднак, вярнуся да люстэрка... Мая прыгажосць мяне не цікавіць. Яна такая, якая ёсць. Вопыт выгравіраваны на маім тварах, на самой справе не бянтэжыць мяне, але і не выклікае гонару. Ці напэўна гэта так? У рэшце рэшт, люстэрка не хлусіць. Ёсць некаторыя справы, якія вытатуіравалі на маім твары ўспамін нядобрых напаміннак. Часам я не магу стрымаць шчырасці люстэрка. У такія моманты я знаходжу суцяшэнне ў роздуме Морыса Метэрлінка: «(...) гэта можа эксперымент прыроды, з якога некаторыя органы, такія як нервовая сістэма, возьмуць карысць, таму што ўвесь час паўтараецца той феномен, што жыццю ідзе к дабру перамога над злом». Гэтыя словы не адносяцца толькі да самога мяне. Праз генералізацыю — таксама да супольнасці, якой воляй-няволяй з'яўляюся часткай. Веру, што яе шматлікая нервовая сістэма таксама будзе мець карысць ад пераадольвання зла, якое яе турбуе. Што тычыцца мяне, я зрабіў шмат рашэнняў выкліканых эгаістычным імпульсам. Як кожны. Палітычныя выбары грамадства ў сучаснай Польшчы таксама характарызуюцца такім імпульсам. Многія з іх па-чалавечы няправільныя, прыводзячы да жыццёвых катаклізмаў — будзь то з-за складаных абставін, якія мяне перараслі, ці недастатковага разумення стану рэчаў — і гэта да сёння кідае цень на мой люстраны адбітак. Я думаю, што гэта вопыт усіх. Прынамсі, я так думаю, што хіба кожны, нарэшце, адважыцца сумленна глянуць праўдзе ў вочы. Хоць я сумняваюся, што гэтая катэгорыя «хіба кожны» адносіцца да ўсіх. Ёсць тыя, хто за свае рашэнні або іх ілюзію ніколі не возьмуць на сябе адказнасці, падымаючы свае добрыя намеры і непахісныя перакананні, а іх правал тлумачыўшы тупасцю або нянавісцю іншых. На жаль, такая крывадушная рацыяналізацыя ўласных памылак характарызуе шматлікіх палітыкаў.

Я жыву ў вёсцы і люблю яе, хоць гэта месца для мяне больш чужое, чым блізкае культурна. Вёска, аднак, мяне палохае. Людзі мяне палохаюць. Я нарадзіўся ў горадзе. Прасяк яго свабодным, як я калісьці думаў, духам на працягу ўсяго свайго дзяцінства, юнацтва і часткі спелых гадоў. Горад таксама палохае мяне. Ды і яго жыхары. У вёсцы і ў горадзе кіпіць зло. Зло ў людзях. Але ці датычыць гэта ўсіх? Вылучым аднаго чалавека з чалавечага рою — усё роўна, ці жыхара вёскі, ці горада, ці прыхільніка ПіС, ці супраціўнага лагера. Кожны з іх у асобнасці, нягледзячы на індывідуальныя заганы, будзе здавацца цалкам звычайным чалавекам, хутчэй добрым, нават высакародным. Больш спагадным, чым нямілым. Больш сумленным, чым несумленным. Больш набожным, этычным і велікадушным, чым кепскім да косці, нягоднікам і прыдзірліўцам. Але цяпер давайце больш уважліва паглядзім на чалавечы рой. Ужо згадвалі мы вышэй словы Морыса Метэрлінка з «Жыцця пчол», які ўжо больш за сто гадоў таму пісаў пра сельскую абшчыну: «Гвалтоўныя, крывадушнікі, хлусы, раўнівыя, яны, як правіла, маюць здольнасці да абману і дробнага жульніцтва, падазроныя і схільныя да ліслівасці да мацнейшых. Неабходнасць прымусіла іх жыць у грамадзе і мусяць дапамагаць адзін аднаму, але кожны мае тайнае жаданне, каб нанесці шкоду іншаму, калі гэта можа быць зроблена без шкоды для ўласнай бяспекі. Адзіная рэальная асалода жыхароў усёй вёскі гэта трагедыя суседа. Любы няшчасны выпадак ці чыясьці страта становіцца прадметам доўгіх, знясільваючых дыскусій, цешацца гэтым і насміхаюцца неміласэрна над ахвярай. Шпіёнячь, пагарджаюць адзін аднаго і ненавідзяць адзін аднаго». Ці так яно ёсць, люстэрачка?

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Гаспадары ці зямныя госці?

Беласточчына, Гарадзеншчына, Берасцейшчына да моманту ўсталявання мяжы паміж Польшчай і СССР пасля заканчэння Другой сусветнай вайны ў 1945 г. увесь час складалі кампактную грамадска-эканамічна-культурную прастору. Землі гэтыя былі месцам шматвяковай канфрантацыі і спаборніцтва Усходу і Захаду — двух вялікіх цывілізацыйна-хрысціянскіх кругоў, якія сваю духоўную і тэрытарыяльную экспансію пашыралі таксама з дапамогай крыжа і мяча. Гэтая тэрыторыя ў сувязі з яе шматнацыянальнасцю і шматкультурнасцю спрыяла ўзнікненню і фарміраванню істотных асяродкаў рэлігійна-палітычна-грамадскай думкі. Тут побач сябе ў маламестачковым краявідзе ўзводзіліся праваслаўныя цэрквы, каталіцкія касцёлы, яўрэйскія сінагогі ці мусульманскія мячэці. Незвычайнае, міжкультурнае багацце і іх узаемадзеянне нарадзіла на гэтай зямлі людзей, якія адціснулі трывалы і важны след у гісторыі сваіх народаў. Зразумела, што рэлігійна-нацыянальная адрознасць прыносіла і іншае вымярэнне агульначалавечых суадносін: нянавісць, здраду, а ў канцы і палітычны тэрор.

Працэс фарміравання сучасных еўрапейскіх народаў на пераломе XIX і XX стагоддзяў вызначыў гэтую тэрыторыю як польска-беларускае сумежжа, на якім два бакі імкнуліся здзейсніць свае палітычныя аспірацыі ў выглядзе сваёй дзяржаўнасці. У выніку Рыжскага дагавору з сакавіка 1921 г. гэтыя землі апынуліся ў Польшчы. Пасля дамовы Савецкага Саюза з Нямеччынай і выбуху Другой сусветнай вайны ў 1939-1941 гадах Беласточчына, Берасцейшчына і Гарадзеншчына апынуліся ў БССР. Ва ўмовах нямецкай акупацыі 1941-1944 гг. Беластоцкая акруга далучана была да Нямеччыны ў правінцыю Усходняя Прусія. Тэрытарыяльныя змены межаў у Еўропе ў выніку ялцінска-патсдамскіх дагавораў 1945 г. раздзялілі гэтыя землі жалезнай заслонай на сорак пяць гадоў. У часы рэальнага сацыялізму і жалезнай заслоны звычайныя міжчалавечыя кантакты былі зведзены амаль да нуля. Адбываліся перш за ўсё толькі партыйныя сустрэчы ўлад Беластоцкага ваяводства і Гродзенскай ці Берасцейскай абласцей. Зрэдку меў месца абмен мастацкімі ці спартыўнымі калектывамі. Усе кантакты былі дакладна адсочваны службамі бяспекі. У такой сітуацыі гэты трансгранічны абшар страціў сваю адметнасць і будаваны стагоддзямі спецыфічны нацыянальны характар. Русіфікацыя з аднаго боку мяжы і паланізацыя з другога мелі служыць толькі выключна пабудове камунізму і сацыялізму, а не захоўванню нацыянальных каштоўнасцей ці грамадзянскіх інтарэсаў.

Палітычныя перамены ў Польшчы 1989 года, развал Савецкага Саюза (здзейснены ў Віскулях, што ў памежнай Белавежскай пушчы) і ўзнікненне незалежнай беларускай дзяржавы далі надзею на адраджэнне шчыльнейшых кантактаў паміж сумежнымі рэгіёнамі. Беларуская меншасць у Польшчы, якая ў васьмідзясятых гадах як адзіная ў Польшчы стварыла сістэмную антыкамуністычную апазіцыю, пасля 1989 г. пачала самаарганізавацца ў розных праявах грамадска-палітычнага жыцця, прыступаючы да выбараў у парламент і самаўрады ў выглядзе Беларускіх выбарчых камітэтаў. Лозунг тадышніх часоў паказваў пра нашу сітуацыю і ўспрыманне нас большасцю. Зварот «Беларусы, пра нашы справы будзем гаварыць самі» шмат гаворыць пра атмасферу тадышніх гадоў і спадзяванні на вырашэнне гмінных спраў уласнымі сіламі. Аднак сур'ёзнай праблемай апошняга паўстагоддзя з'яўляецца дэмаграфічная структура беларускіх гмін, дзе абсалютна адвернута ўзроставая жыццёвая піраміда. У многіх гмінах адбываюцца ўжо толькі выключна пахаванні, без хрэсьбін і вяселляў. Менавіта фон, на якім беларусам у Польшчы прыйшлося жыць і старацца захоўваць сваю нацыянальную тоеснасць, з'яўляецца важным, каб зразумець і ацаніць нашы поспехі і паразы.

Яўген ВАПА

# Колеры шляху да Бога

**На мастацкія акты тварэння могуць вырашальна паўплываць розныя тыпы натхненняў. Несумненна, колькі ёсць мастацкіх выяваў, столькі можа быць матывацый да перадання іх. У сакральным мастацтве на тварэнне ўплывае глыбокае адчуванне веры. З такім вось стаўленнем дзейнічае Грыша Зінкевіч, які сваю жыццёвую прастору прысвячае паказванні святых, ды звязаных з іх жыццём падзей. Эфекты гэтай экспрэсіі можам убачыць на іконах ды фрэсках, якія аднаchасова з'яўляюцца доказам веры мастака з Бельшчыны.**



**Грыша Зінкевіч** — свецкая асоба, звязаная з Богам. Свае імкненні быць бліжэй Яго Грыша здзяйсняе менавіта ў пісанні ікон ды ў неаднойчы фізічна цяжкім маляванні фрэсак. Можна лічыць што якраз тыя экспрэсіі з'яўляюцца ягонымі колерамі шляху да Бога.

Адпраўляючысяз Бельска-Падляшскага ў заходнім напрамку, перасякаючы па дарозе Аўгустова (інакш называнае Краінай Аўгустова), працягваючы сваю эскападу, патрапім у Стрыкі. Хаця зараз цiхая, можа нават і быццам нежывая, тая ж вёска выклікае атмасферу духоўнасці. У такое ж адчуванне можна ўвайсці яшчэ некалькі кіламетраў да яе, дзе сярод дрэў, на могільніку знаходзіцца царква св. Ануфрыя, якая на пачатку XIX стагоддзя была аб'ектам спрэчак між уніяцкімі ды праваслаўнымі вернікамі. Капліачка пры ўездзе ў Стрыкі быццам запрашае ў вёску. Ёсць у гэтай мясцовасці таксама месца на своеасаблівы інкубаторый згаданай ужо духоўнасці, пры чым у яе мастацкай версіі. Менавіта ў Стрыках свае іконы піша Грыша Зінкевіч. Вырашыў я заглянуць у яго майстэрню, так каб сустрэць творцу ў разгары працы ды даведацца скуль узяла пачатак яго несумненна жыццёвая дарога.

**Першы кантакт Грышы Зінкевіча з іконай наступіў яшчэ ў перыяд яго вучобы ў пачатковай школе:**

— Гэта пачалося з таго, што настаяцель царквы Архангела Міхаіла ў Бельску-Падляшскім, айцец Лявонцій Тафілюк пачаў арганізаваць іканапісную школу. На пачатку гэта былі г.зв. іканапісныя лагеры ў летні перыяд, падчас канікулаў. У перыяд навучальнага года гэта былі проста іканапісныя майстар-класы. На першыя такія заняткі завяла мяне мая сястра, якая сама паспрабавала пісаць іконы. Калі я ўжо паступіў у Бельскі белліцэй, айцец Лявонцій пачаў арганізаваць ужо такую больш стацыянарную школу. Тады прыехаў да нас з Масквы, зараз ужо святой памяці, Аляксандр Сокалаў, які быў вядомым у маскоўскіх кругах іканапісцам. Я і стаў рэгулярна хадзіць на яго заняткі. У гэтым жа часе — быў гэта 1991 год, школа пісання ікон у Бельску атрымала ўжо статус навучальнай установы ды пачала называцца Паслялiцэйскай іканаграфічнай студыяй. Тая ж школа тады стала быць папулярнай, бо і самая кананічная ікона, можна сказаць, была тады ў перыядзе вялікага развіцця. Дык што за гэтым ідзе, у нас было шмат працы, таксама прыходзілі да нас вучыцца што і раз то новыя курсанты. Можна сказаць, што айцец Лявонцій быў своеасаблівым папярэднікам кананічнай іконы. Да гэтай пары іконай у нас займаўся толькі праф. Ежы Навасельскі.

На пачатку сваёй дзейнасці іканапісная школа ў Бельску-Падляшскім была аб'ектам зацікаўлення многіх асоб, якія вырашылі паспрабаваць сваіх сіл у сакральным мастацтве. Усё ж такі нямногія дайшлі да канца цыкла адукацыі па іканапісе.

— Напэўна атмасфера падчас вучобы была вельмі пазітыўная. Помню, што сярод першых вучняў былі 22 асобы — бяльшчане, але таксама шмат было ахвотных з Беластока ці з-па-за горада. У рэшце рэшт нашу іканапісную школу завяршыла 4 асобы. Гэта магчыма было звязанае з тым, што пасля ліцэя маладым людзям проста трэба было вырашыць, у якім жыццёвым напрамку далей крочыць. Атрымалася так, што большасць з іх паступіла ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Наша невялікая група іканапісцаў засталася і нашу жыццёвую дзейнасць мы звязалі якраз з гэтай галіной. Варта тут адзначыць, што сярод людзей, якія пацікавіліся іканапісаннем і наведвалі майстэрню, быў таксама сёння вядомы вакаліст беларускай сцэны Юрка Асеннік. Помню, што быў гэта час, калі ён, вярнуўшыся з Парыжа, таксама паспрабаваў сваіх сіл у іканапісе і аказалася, што ён вылучаецца вялікім талентам. Як цікавінку можна тут прыгадаць, што якраз «Сенька» паказаў нам старажытны царкоўны спеў. Пазней тую ж сакральную форму ўвёў у прыходзе і айцец Лявонцій Тафілюк, аднак можна сказаць, што менавіта Юрка гэтае запачаткаваў у своеасаблівы спосаб.

**Наогул пісанне ікон гэта адносна складаная ды разнастайная справа. У сваёй працы Грыша Зінкевіч карыстаецца традыцыйнымі тэхнікамі родам з сярэднявечча. У гэтым выпадку да здзяйснення творчага працэсу патрэбныя прыродная сыравіна.**



— Іканапісцы сёння ў якасці фарбаў прыкладна выкарыстоўваюць гэтак званыя сухія пігменты, сухія мінералы. Гэта мінеральныя фарбы, земляныя фарбы, хаця бывае, што сёння іканапісцы карыстаюцца таксама хімічнымі субстытутамі фарбы. Я ўсё ж такі стараюся прымяняць натуральныя субстанцыі. Гэта прыкладна паўшляхетныя фарбы, як лазурыт, кінавар, малахіт, таксама могуць быць каляровыя землі, як зялёная маскоўская зямля, кіпрская, італьянская, нямецкая. Згаданыя мной натуральныя фарбы ўстойлівыя, дзякуючы ім атмасферныя ўмовы дэструктыўна не ўплываюць на ікону. Калі аддаем заказчыкам ікону, часам у жартах сцвярджаем, што яе гарантыя сягае 500 гадоў. Вядома, што чуючы тое, чалавек можа смяяцца, але так з устойлівасцю такой іконы насамрэч і ёсць. Адзіным элементам іконы, які цямнее, з'яўляецца г.зв. вернікс, то-бок слой, які нагадвае натуральны лак — ён жоўкне, быццам цямнее. Калі аднак гэты вернікс зняць, на іконе па-ранейшаму відны ўсе колеры, як на пачатку.

**Час пісання ікон паказвае адзінства Грышы з іконай, быццам наступае пераплыў энергіі і духоўнасці між мастаком і гэтым, што ён пакінуў на сваёй працы. Акт тварэння поўнасцю яго паглынае. Для выдатнага здзяйснення творчага працэсу патрэбныя не толькі асаблівыя мастацкія здольнасці.**

— Я лічу, што першае, з чаго павінна пачацца праца, гэта малітва. Толькі пасля прыступаем да тварэння. Рыхтуем дошку, у гэтым выпадку мы таксама звяртаемся да даўніх, старажытных спосабаў, карыстаючыся ліпавымі дошкамі. Да іх ад задняга боку далучаюцца драўляныя стабілізуючыя ікону элементы. Пазней з двух бакоў дошкі трэба развесці клей, прыкладна з трусіных шкур і храсткоў, хаця можна таксама прымяніць клей для драўніны. На пярэдні бок дрэва наклейваецца газа, або льняное палатно. За тым накладваем 7-8 слаёў згаданага клею разам з крэйдай. Гэта субстанцыі, якія падчас накладвання разграваюць, з'яўляюцца своеасаблівым падмуркам пад уласцівыя малюнкі на іконе. І пасля падрыхтоўчых дзеянняў прыступаем да ўласцівых самому пісанню актаў тварэння. Гэтая частка працы называецца «раскрыццём іконы», значыцца памаленьку пачынаем маляваць. Можна спярша выканаць алоўкам рысунак, які пазней запаўняецца фарбамі, або адразу імі маляваць, без эскізу. Выконваем усе базавыя слаі, то-бок фарбу з жаўтком курынага яйка, да якой дабаўляецца белае віно ды спіртны воцат, разводзім на працы. Пасля адбываюцца ўжо тыпова мастацкія дзеянні, звязаныя з усялякімі абрысамі, выявамі святых, падзеямі, якія будзе можна знайсці на іконе. Калі гэта ўжо зроблена, прыступаем да пазалоткі іконы. Выкананая ікона сохне пазней каля 1-2 тыдняў, залежна ад надвор'я. Вядома, што ікона любіць сонца, бо на ім хутчэй высыхае.

**Несумненна пісанне ікон гэта складаны ды багаты ў разнастайнасць дзеянняў працэс. Тое перакладаецца таксама на працягласць часу, які прысвячае іканапісец свайму творчаму ўздыму.**

— Такая ікона, на якой прадстаўлена постаць аднаго святога, пішацца ад аднаго да трох тыдняў. Выкананне кампазіцый, прымеркаваных, прыкладна, да канкрэтных святаў ці біблейных падзей, гэта ўжо перспектыва 1-2 месяцаў, залежна ад ступені складанасці тэмы. Але трэба тут адзначыць, што пісанне гэта праца, якой чалавек займаецца з самой раніцы да позняга вечара. Гэта не быццам звычайны працоўны дзень на прадпрыемстве. Мне асабіста вельмі складана пісаць тыя, на якіх ёсць шмат мініяцюрных постацей, прыкладна ікона Успення Прасвятой Багародзіцы. Там шмат малых элементаў, ды ўсе дэталі на гэтых працах істотныя. Да такой працы трэба асаблівай дакладнасці.

**На эфект працы над іконай не ўплываюць толькі мастацкія здольнасці. Гатовая кампазіцыя ды сам працэс тварэння з'яўляюцца таксама сведчаннем унутраных станаў іканапісца.**

— Калі ў чалавека ёсць духоўны лад, ён дасягне ўнутраную стабілізацыю і гэта пазітыўна паўплывае на аператыўнасць працы. Тады пішацца лёгка, можна адчуць такую сапраўдную прыемнасць ад тварэння. Але калі ў яго якраз нейкія, скажам, цяжкія эмоцыі, тады тварэнне не атрымліваецца належным чынам ды ўвогуле. Трэба тады на час неспрыяльных станаў, проста адтэрміноўваць працу над іконай. Увогуле духоўнасць у іканапісца гэта галоўная справа, таму што ён, ствараючы ікону, дае пасведчанне гэтага свету, які ён прадстаў-

працяг ☞ 11

## Аднавілі драўляныя дамы

У вёсцы Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ёсць 43 драўляныя дамы, некаторыя з іх з прыгожымі ганачкамі. Яны былі пабудаваны перш-наперш са смольных сасновых бярвён. Зараз толькі на некаторых дамах захавалася дэкарацыйныя драўляная разьба. Арнаментам упрыгожвалі шчыты і вуглы дамоў, а вокны пры дапамозе шалёўкі, ліштваў і аканіц. Вуглы дамоў шалявалі гладкімі дошкамі і на іх набівалі арнамент. У драўляных дамах свойскі клімат. Яны найбольш прыязныя для чалавека.

Драўляныя дамы аднавілі, між іншым, Марыя і Віталь Харкевічы, Міхал і Юрый Саевічы, Люба Болбат, Марыя і Сяргей Саевічы, Марыя і Мікалай Пучынскія, Мікалай Галубоўскі, Пётр Галубоўскі, Барыс Казлоўскі, Галіна і Юрый Казлоўскія, Крыстына і Ян Грэсікі, Галіна і Аляксандр Скепкі, Ян і Мікалай Сахарчукі, Галіна Целушэцкая і Павел Красноўскі. Амаль усе яны рамантавалі перш-наперш дахі (перакрывалі іх нанава памаляванай бляхай), паўстаўлялі новыя вокны і дзверы. У двух дамах сцены абабілі белым сайдынгам. Пры трох дамах дабудавалі веранды з калонкамі. Сем дамоў абгарадзілі новымі платамі Дзіўна, але факт. Цяпер пры дамах не садзяць ліставых дрэў, а пераважна туі. Дагэтуль пры гэтых драўляных дамах у Новым Ляўкове не было туй. Садзілі ліпы, бярозы, вязы, ясені і вербы ды кусты чаромхі, бэзу і язміну. Перад некаторымі хатамі ў агародчыках раслі яблыні і слівы.

У мінулым годзе на калёніі Новага Ляўкова маладыя людзі купілі г. зв. пляц і паставілі новы прыгожы драўляны дом. Прыязджаюць у цёплыя поры года. Падабаецца ім наша ваколіца, рэчкі Нараўка і Нарва, Семяноўскае возера, нашы беларускія летнія фэсты і іншыя культурна-забаўляльныя мерапрыемствы.

## Няма ніякага зруху

Небяспечна ехаць па ўхабістым адрэзку асфальтавай дарогі, якая бяжыць побач чыгункі ў Плянце Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Цяпер часта падаюць дажджы і на дарозе стаяць глыбокія лужы. На мастакой мокра і балоцістая гразь. Слізка. Заняўся справай радны Нараўчанскай гміны. 20 верасня гэтага года пайшло пісьмо войта Нараўчанскай гміны да прадпрыемства ПКП С.А., да якога належыць вышэйзгаданая дарога. Войт напісаў, што «радны Ян Целушэцкі патрабуе выразаць кусты і ліквідаваць дэфекты дарожнага пакрыцця на адрэзку ад ваяводскай дарогі № 687 у напрамку былой чыгуначнай станцыі ў Плянце і да былых баз Гміннага кааператыва. Дрэнны стан гэтай дарогі і разрослыя кусты ствараюць небяспеку руху».

Мінуў месяц і крыху больш ад высылкі войтавага пісьма, а зруху з боку чыгуначных улад ніякага. Жоўтае ды чырвонае лісце з дрэў і кустоў на абочынах дарогі асыпаецца ў прыдарожныя равы. Становіцца больш светла і як бы больш прасторна на прычыгуначнай дарозе. Неўзабаве — як штогод — прыйдзе мароз і скуе дажджавыя лужы лёдам і маставая будзе гладкая-гладкая. Тады што ж, хіба варта яшчэ пачакаць. Мабыць, так думаюць адказныя, між іншым, за стан дарогі ў Плянце чыноўнікі. А мы — войт і радны — усё чакаем адказу. Людзі кажуць, што польская чыгунка гэта дзяржава ў дзяржаве. З ёю не выйграеш. (яц)

# 60 ГАДОЎ ТВОРЧАЙ ПРАЦЫ ГРАФІКА „НІВЫ”




**Вучань Яна Вермеера і Пітэра Брэйгеля са шматгадовым „эпізодам” у „Ніве”. Жывапісец і графік Стэфан Рыбі адзначыў вернісажам сваіх навейшых карцін юбілей шасцідзесяці гадоў творчай працы.**

— Часам мне сніцца праца ў „Ніве”, што яшчэ не зрабіў рысак і віньетак, а ўжо ў друкарні чакаюць новага нумара, — успамінае з усмешкай на твары Стэфан Рыбі, і працягвае. — Гэта ўсё была ручная работа. Тады не было камп'ютараў, трэба было сядзець і шмат гадзін рысаваць. Падрыхтаваны шаблон ішоў у друкарню, там рабілі з яго клішэ і адліўку, а потым друкавалі.

Стэфан Рыбі працаваў у „Ніве” графікам васямнаццаць гадоў. З канца шасцідзясятых да палавіны васьмідзясятых гадоў.

— Ён кончыў працу ў „Ніве”, а я тады пачынаў. Можна сказаць, што ён даў мне працу. Гэта было ў „чарнобыльскім” годзе, — успамінае былы графік газеты Уладзіслаў Петрук, які прыйшоў паглядзець працы свайго сябры і настаўніка. — З таго, што памятаю, Рыбі на пачатку ў „Ніве” інспіраваўся народным беларускім мастацтвам, але потым пайшоў у іншым напрамку.

Жывыя колеры і небывалыя дэталі карцін мастака. Гэта прыцягвае да творчасці юбіляра. На вернісажы паказаны былі працы, створаныя за апошнія дзесяць гадоў.

— З'яўляюся вучнем віленскага мастака Аляксандра Вельса, у якога я практыкаваў дваццаць гадоў, — кажа Рыбі. — Разам малявалі паліхроміі ў многіх касцёлах на Падляшшы. Дзякуючы яму навучыўся мастацкай тэхніцы.

Сам мастак кажа, што ён з'яўляецца жывапісцам з іншай эпохі. Ягоная творчасць інспіраваная карцінамі Яна Вермеера і Пітэра Брэйгеля. У яго карцінах знайсці можна многія спасылкі на біблейныя матывы.

— У перспектыве погляду на стан сённяшняга мастацтва, творчасць Стэфана Рыбі гэта эмацыйнае перажыванне для гледача, — лічыць сябра і сусед юбіляра, вядомы польскі скульптар Анджэй Рэнэс. — Сённяшні вернісаж гэта сустрэча з сапраўдным мастаком з даўніх гадоў, сябрам Караваджа ды іншых майстроў, з якімі ён сваёй творчасцю вядзе размову.

У свой час Стэфан Рыбі вёў таксама доўгія размовы ў рэдакцыі „Нівы”. Як сам кажа, многіх рэдакцыйных калег паважаў, але з некаторымі давялося яму праводзіць доўгія дыскусіі наконт графічнага кшталту газеты. Найбольш цёпла з гэтых





гадоў успамінае галоўнага рэдактара Георгія Валкавыцкага:

— Гэта чалавек, які, думаю, нікому ў жыцці крыўды не зрабіў, — расказвае юбіляр выразна ўзрушаны. — Гэта быў чалавек, які, калі не хацеў бачыць штосьці дрэннае, то не бачыў. Часам прыходзілі да мяне ў мой пакой у рэдакцыі „расспяваныя” сябры. Валкавыцкі тады не заходзіў да мяне. Гэта быў душа-чалавек. У сваім жыцці я сустрэў пару чалавек, якіх сяброўствам ганаруся. Адным з іх быў Георгій Валкавыцкі, — кончыць узрушаным голасам Стэфан Рыбі.

Выставу навейшых жывапісных прац мастака можна аглядаць у Оперы і філармоніі па вуліцы Адэскай 1 да 30 кастрычніка.

Тэкст і фота Лукаша ЛЕАНЮКА

# Беларусь вачыма паляка








Беларусь можа прывабліваць сваёй таямнічасцю, бо насуперак бязвізаваму руху, яна надалей закрытая. Вялікая, крайняя еўрапейская дзяржава, якая многім асацыюецца з дыктатурай і яе стваральнікам — Аляксандрам Лукашэнкам. Ці можна вызначыць найважнейшыя яе рысы ў адным зборніку рэпартажаў? Гэтую спробу зрабіў Матэвуш Марчэўскі, а эфект яго працы мае загаловак «Круглыя азёры Беларусі».

16 кастрычніка ў Беластоку прайшла сустрэча з аўтарам кнігі «Круглыя азёры Беларусі» (*Koliste jeziora Białorusi*) Матэвушам Марчэўскім. Сустрэчу з пісьменнікам арганізаваў Аддзел літаратуры асветніцтва і рамантызму Універсітэта ў Беластоку. На мерапрыемстве прысутнічалі прадстаўнікі беларускай меншасці, але і асобы цікавыя найбліжэйшага суседа нашага ваяводства — Беларусі.

Менавіта Беларусь не з'яўляецца краінай, якая ўспрымаецца як краіна асабліва прывабная для турыстаў. Доўгія працэдуры пры перасячэнні беларуска-польскай мяжы адбіваюць ахвоту ехаць туды. З 12 чэрвеня 2015 года, з увядзеннем бязвізавых паездак, хоць з абмежаваннямі часу і тэрыторыі, наведванне Беларусі стала прасцейшае. Лічыцца, што палякі ведаюць адносна мала пра тое, што адбываецца ў Беларусі. Польская прэса пра нашу ўсходнюю суседку найчасцей гаворыць у палітычным кантэксце. Таму тым больш цікава паглядзець на Беларусь вачыма паляка з цэнтральнай Польшчы.

Здаецца, што кніжкі пра Беларусь на фоне Польшчы найбольш чаканыя падляшскімі чытачамі. Здаецца, што і гэтае асяроддзе з'яўляецца найбольшым цэнзарам такіх выданняў. Ведаў пра гэта сам аўтар, які адкрыта сказаў, што найбольш хваляваўся сустрэчы з падляшскімі чытачамі.

— Магчыма гэта была мая найцяжэйшая сустрэча таму, што тут размаўляю з людзьмі, у якіх плыве беларуская кроў, — прызнаўся пасля сустрэчы Матэвуш Марчэўскі. — То так сама, калі б нехта прыехаў у Польшчу і апісаў, як выглядае Польшча. Я мог бы тады сказаць: не маеш рацыі, няма Польшчы ў тваёй кніжцы! Аднак таксама сказаў бы такой асобе: добра, што пішаш, гэта твой суб'ектыўны вобраз, але мы гэта бачым па-іншаму.

Рэпартаж «Круглыя азёры Беларусі» кранае тэмы палітыкі, гісторыі, грамадства, а таксама міфалогіі. Вядома, аўтар таксама прысвячае ўвагу пытанням дыктатуры Лукашэнкі праз прызму расказаў сваіх герояў. Піша пра меліярацыю Палесся, якая прычынілася да трывалай змены краявіду, пра беларускую міфалогію ды пытанні моўнай сітуацыі беларусаў. Канцэнтрацыю ўвагі ўзмацняюць лаканічныя апісанні прасторы. Колеры, пахі, ці фактуры паяўляюцца спарадычна і цяжка пабудаваць у галаве вобраз месца.

— Для мяне, як для асобы, якая ездзіла па Беларусі, якая даследавала Беларусь, якая шмат ведае пра Беларусь не толькі як даследчыца, магу сказаць, што для мяне ў гэтай кніжцы не было нічога новага, — кажа доктар Гражына Харытанюк. — Думала, што загаловак нясе нешта новае. Шмат тут недахопаў. Гэта напэўна суб'ектыўны вобраз пісьменніка, які, не ведаю, наколькі паехаў падрыхтаваны, а наколькі не. Аўтар не крануў той сапраўднай Беларусі. Кніжка не найлепшая перш за ўсё таму, што аўтар увекавечвае стэрэатыпы і нават не тлумачыць, чаму гэта робіць.

Напісанне кнігі пра любую вялікую краіну цяжкая справа. З гэтай задачай Матэвуш Марчэўскі справіўся не надта добра, проста крануў некалькі вядомых праблем. Як заўважыла Аліна Ваўранюк, гэта добрая кніга для тых, якія пачынаюць цікавіцца Беларуссю, але ўжо не для гэтых, якія глыбей хочуць яе спазнаць.

— Калі нехта не ведае гісторыі князя Усяслава Чарадзея, то фактычна гэта захапляльна, калі першы раз чытае, — сказала Аліна Ваўранюк. — Калі чалавек нічога не ведае пра гэтае нашае, з аднаго боку глухое, Палессе, а з другога боку багацце Палесся, гэта таксама цікава. Наогул супер, што людзі ездзяць і што пішуць.

Як адзначыў аўтар, штуршком для напісання кнігі стаў, на яго думку, крызіс тоеснасці беларусаў. Гэта была адначасова матывацыя дзеля таго, каб упершыню паехаць на Беларусь.

— Найчасцей пішу пра тоеснасць. Найбольш цікавіць мяне гэтае пытанне, — кажа Матэвуш Марчэўскі. — У першай кніжцы я пісаў пра жыццё аўстралійскіх абарыгенаў. Такой жа тэмы пачаў шукаць вакол сябе. Беларусь гэта краіна, якая з'яўляецца эмблематычным прыкладам страты сваёй тоеснасці. Я паехаў туды паглядзець як гэта выглядае, ведаючы, што не прывязу маналітнага вобраза, толькі аповед пра тое, што там сустрэну. Гэтая краіна аб'явілася мне вельмі цікавай, бо ўсё, да чаго я дакрануўся і ўсё, што я разумею, здавалася мне глыбейшым і глыбейшым.

Менавіта глыбіня пытання тоеснасці, на думку доктар Гражыны Харытанюк, патрабуе глыбейшай падрыхтоўкі і часцейшых паездак у даследаваную краіну.

— Пытанне тоеснасці жыхароў любой дзяржавы — тэма вельмі сур'ёзная. Гэтым пытаннем не займаецца чалавек, які амаль нічога не ведае пра дадзеную краіну, — адзначыла Гражына Харытанюк. — Гэта патрабуе грунтоўнай падрыхтоўкі, часу, кантактаў з рознымі людзьмі. Магчыма, гэтая сустрэча дасць новыя інспірацыі аўтару.

На пытанне ці варта рэкамендаваць кніжку Матэвуша Марчэўскага студэнтам, доктар Гражына Харытанюк адказала: «Чаму? Як тут нехта заўважыў, кніжку добра, лёгка чытаецца. Можна яе рэкамендаваць, але не ставіцца да яе некрытычна. Беларусь не такая, як у кніжцы. Трэба мець і нейкі іншы погляд».

Абраныя тэмы ў рэпартажы «Круглыя азёры Беларусі» Матэвуша Марчэўскага не ўсе лёгкія, але лёгка напісаныя. Рэпартаж, на думку аўтара, меў прыблізіць людскія праблемы. Выбар тэм даволі трывіяльны. У кніжцы няшмат гісторыі, пра якія цікавы свету чалавек не чуў. «Круглыя возеры Беларусі» можна палічыць даведнікам для маладых чытачоў. Асобы, якія шукаюць нечага новага і свежага, знаходзяць тут няшмат карыснай для сябе інфармацыі.

Тэкст і фота **Улі ШУБЗДЫ**

## 50 гадоў разам

Паўвека таму яны спалучылі свае мары і жыццёвыя мэты. Супольна пражылі 50 гадоў у любові, былі вернымі партнёрамі і перш за ўсё мелі да сябе поўны давер. Таму пераадолелі ўсе жыццёвыя перашкоды бы нягоды і дачакаліся юбілею. На ўрачыстае ўручэнне памятных медалёў ад прэзідэнта РП запрасіла юбіляраў войт Бельскай гміны Раіса Раецкая.

На ўрачыстасць прыбылі Ніна і Пётр Мацеюкі з вёскі Белая, Марыя і Пётр Нікіцюкі з вёскі Катлы, Анна і Васіль Врублеўскія з Дэнісак, Яўгенія і Юрый Сідорскія з Пілік, Антаніна і Васіль Дамброўскія з Райска, Ніна і Ян Андрэюкі ды Кацярына і Мікалай Гаўрылюкі з Трашчотак.

Прыехалі таксама запрошаныя юбіляры, якія сёлета святкуюць 60-годдзе шлюбнага супольнага жыцця (дыяментавае вяселле) Ніна і Ян Зажэцкія са Стрык, Ядвіга і Францішак Здрайкоўскія з Петшыкова-Вышкаў, Рэгіна і Генрык Петшыкоўскія з Банек ды Вольга і Рыгор Асташэвічы з Аўгустова.

70-годдзе (!) шлюбнага сужыцця святкавала і была прысутная на ўрачыстасці адна пара — Надзея і Сяргей Ігнацюкі з Казлоў.

Пасля афіцыйнай часткі былі самыя лепшыя пажаданні моцнага здароўя, поспехаў і доўгіх гадоў жыцця ад сямейнікаў, шампанскае і вясельны торт. З канцэртам выступіў мастацкі калектыў „Луна". На заканчэнне мерапрыемства шаноўным юбілярам іх дарослыя дзеці зрабілі фотаздымкі на памяць.

**(яц)**

**Віктар Шніп**

## БАЛАДА ЯЗЭПА ВАРОНКІ

(17.04.1891—4.06.1952)

**Ад беларускіх ніў, ад роднай хаты**
**З'язджаеш у Амерыку і ты,**
**Але не для таго, каб стаць багатым,**
**Каб беларусам быць на ўсе гады,**
**Што Бог яшчэ пражыць табе даруе**
**І каб у беларусах абуджаць**
**Любоў да Беларусі, што гаруе,**
**Ніяк не можа незалежнай стаць**
**І сэрцам быць Еўропы назаўсёды.**
**Плыве праз акіяны параход,**
**Дзе айсбергі, нібыта параходы,**
**Дзе людзі схаладалыя, як лёд,**
**Плывуць абы далей**
**ад роднай хаты.**
**А ты плывеш, нібы сляза плыве**
**З вачэй Айчыны, быццам**
**вінаватай,**
**Што ты не так, як жыць хацеў,**
**жывеш.**
**І сыдзеш ты, нібыта на Галгофу,**
**На бераг незнаёмы і чужы,**
**Каб помніць пра пакутную Еўропу**
**І беларускай Беларуссю жыць...**

**11.06.2010**

## СПАЧУВАННІ

Шчырыя словы спачування нашаму рэдакцыйнаму сябру **Аляксандру Вярбіцкаму** і Яго сям'і з прычыны напаткаўшага Яго гора – смерці жонкі **Валянціны**.

**рэдакцыя Нівы**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Вышыванкі, моладзь, бунт!






Крамы, буцікі, гандлёвыя цэнтры — усюды можам купляць вопратку розных марак. Вытворцы гоняць адзін аднаго ў вынаходстве ўсё больш арыгінальнай вопраткі, якая спакушае нас з-за шкляных вітрын і экранаў тэлевізараў. Лёгка можна падабраць сучасныя ўборы для клубных вечарынак, актыўнага адпачынку і спорту, галаўныя ўборы і верхнюю вопратку. Асаблівай папулярнасцю арыгінальнае адзенне карыстаецца сярод вас — моладзі. І здаецца, што на першым месцы ставіце зручнасць вопраткі, але і індывідуальнасць стылю. Вядома, што больш і даражэй, не значыць лепш!

Янаў — невялікі гарадок на Сакольшчыне. Мястэчка праславілася даўжэзнай традыцыяй двухасноўнага ткацтва. Да сёння актыўна працуюць тут ткачыхі, якія ахвотна вучаць маладое пакаленне гэтай забытай прафесіі. Такая ткацкая тэхніка выступае толькі ў гэтым рэгіёне Падляшша, а нават Польшчы! Падобную даследчыкі сустракалі толькі на Гарадзеншчыне і Берасцейшчыне. Таксама як арнаменты вытканыя на дыванах. Таму вельмі ўсіх уразіў паказ моды, які падрыхтавалі вучні мясцовага комплексу школ. У час канікулаў дзеці і моладзь на адмысловых занятках паглыблялі веды наконт ткацкіх арнаментаў. А іх вынікам былі дызайнерскія майкі, заплечнікі і блюзы. Не патрабавалі многа, дастаткова адмысловай фарбы для вопраткі і запал. Вынікі іхняй працы можна было паглядзець на ўрачыстым адкрыцці ткацкага шляху «У краіне ўтку і асновы». Моладзь падрыхтавала паказ моды, якога не пасаромеўся б сам Ральф Лоран!

Калі ўжо пра вопратку, вельмі спадабаўся мне этна-сучасны стыль сям'і Місеюкоў, якая выступала на сёлетнім конкурсе «Пявучых сем'яў». Мерапрыемства прайшло 22 кастрычніка ў сядзібе БГКТ. Апрача прыгожага спеву можна было захапляцца іхняй вопраткай. Яны выбралі самы просты шлях — спалучылі старыя рэчы з сучаснымі. Народныя вышыванкі з рок-штанамі, прычоскамі і макіяжам выглядалі вельмі арыгінальна і цікава. Гледзячы, складалася ўражанне, што гэтае бунтарскае пакаленне яшчэ забярэ голас — не толькі на мерапрыемстве «Пявучыя сем'і».

Варта не абмяжоўваць сваю фантазію, толькі шукаць новыя шляхі і падыходы да інтэрпрэтацыі традыцыйнага адзення ў сучаснасці. Мы непаўторныя, бо згэтуль — і цікава часам гэта падкрэсліць!

**Тэкст і фота Улі Шубзды**




*расквецім гісторыю*

## *Беларусі*

### Беларуская Народная Рэспубліка (БНР)

25 сакавіка 1918 года ў Мінску насуперак шматлікім заваёўнікам была абвешчана наша суверэнная дзяржава — Беларуская Народная Рэспубліка. Хаця бацькі-заснавальнікі БНР не здолелі доўга ўтрымаць уладу, дэкларацыя першай незалежнасці моцна паўплывала на развіццё нацыянальнай і дзяржаўнай свядомасці беларусаў. Абвяшчэнне БНР — падмурак сучаснай Рэспублікі Беларусь.

Цяпер гэтая сакавіцкая дата — Дзень волі, свята свабодных людзей.

# Цікавая сустрэча з журналістам

6 кастрычніка 2017 года ў Гайнаўскім белліцэі адбылася незвычайная сустрэча з выдатным журналістам ды перакладчыкам Янам Максімюком. Наш госць зрабіў вялікае ўражанне на вучнях, якія ўдзельнічалі ў гэтым спатканні. Мы даведаліся, што спадар Ян распрацаваў наш падляшскі дыялект як асобную мову ды папулярызаваў яе ў іншых частках свету. У дадатак журналіст ведае аж трынаццаць замежных моў. Мы — вучні белліцэя з вялікай зацікаўленасцю слухалі пра ўсё тое, што расказваў нам госць. На пачатку сустрэчы ён расказаў пра сябе і сваю творчасць. Нам стала вядома, што Ян Максімюк працаваў калісьці ў «Ніве». Ён распавёў нам пра сваю працу перакладчыка, журналіста, а таксама пра час, калі працаваў у пасольстве ЗША ў Варшаве. Свае аповеды спадар Максімюк узбагаціў фатаграфіямі, якія прадстаўлялі канкрэтныя моманты з яго жыцця: канферэнцыі ў Шкоцыі, Японіі ці Канадзе.

У другой палавіне сустрэчы вучні маглі задаць пытанні нашаму госцю. Многія з нас падымалі рукі ўверх, каб пра нешта запытаць, а Ян Максімюк даваў нам дэталёвыя адказы.

Мне здаецца, што ўсе вучні, прысутныя на сустрэчы, вельмі прыемна правялі час у кампаніі нашага госця. Ян Максімюк аказаўся вельмі цікавым чалавекам, які зрабіў на нас вельмі станоўчае ўражанне і гэтыя два ўрокі аказаліся за кароткімі на спатканне з такім выдатным чалавекам. На канец мы шчыра падзякавалі нашаму госцю, зрабілі здымкі, а некаторыя вучні падыходзілі да спадара Яна, каб асабіста падзякаваць ды коратка пагутарыць з ім сам-насам.



**Магдалена АНІСКЕВІЧ**
Гайнаўскі белліцэй

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Сварлівы вярблюд

Пагоншчык ударыў вярблюда, а той адвярнуўся і злосна зароў:
— Як яшчэ раз мяне стукнеш, калі я ў адчайным смутку, тады глядзі — пальну цябе капытам!
Пагоншчык разявіў рот, а пасля спытаў:
— А як мне пазнаць, што ты ў адчайным смутку?
Вярблюд адказаў:
— Гэта тады, калі ў мяне абвісла губа і падгінаюцца ногі.
А той адказаў:
— Як мне ўгадаць твой настрой, калі ў цябе цэлы час абвісла губа і падагнутыя ногі?!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Лукаш АНХІМ
ПШ у Міхалове

## У грыбах

Я іду па палях,
Проста ў маладняк.
Буду там збіраць грыбы.
Мама з бабуляй з іх
Звараць боршч на Каляды.

Плюскі і баравікі спяць у імху.
Відаць баравіка карычневую
галаву.
Я ў каробку іх збіраю
І кастрыцу загартаю.

Вось і сонца ўзышло высока.
Мне дахаты ісці нялёгка.
Зязюля і варона
Падвядуць мяне дадому.

Мама з татам
Рады ў хаце.

«Хутчэй! – бягуць. – Дай,
паможам!
Наш сын харошы
Прыцягнуў поўны кошык!»

## УВАГА КОНКУРС! № 44-17

**Месяц гэты вузкі, гнуткі,
У яго знутры ёсць зубкі.
Ён калісьці вельмі дбайна
Жыта жаў замест камбайна.
С...**

**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 5 лістапада 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 41: коцік. Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі Дам’ян Карнілюк, Ася Нікіцюк, Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 44-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 40-17:** Стапа, стан, квас, Аня, грунт, лак, грушка, як, злоты, грошы, но, луб, фон, троху, парк, Анда. Лянота, стаяк, танк, глог, Аня, зрух, глобус, грош, круты, вушы, фан, банк, норка, старонка.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Іаанна Нікіцюк, Магдалена Якубюк, Дам’ян Карнілюк і Вікторыя Гаць** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!

Słoniątko
Ludzie
Klin
Ułan
Kokos
Chińskie imię
Jus
Kucharz
Siła
Łuk
Ser
Baku
Data
Budynek
Wio!
Jał
Znachor
Kat
Żurawie

# Гайнаўшчына на фатаграфіях Уладзіслава Завадзкага



**— Я фатаграфую вёскі ў наваколлі Гайнаўкі, прыроду. Захаплялі мяне партрэты вясковых людзей. Шукаў я ў нашай вёсцы асаблівасцей, якіх зараз ужо вельмі мала, бо вясковая архітэктура стала простай і прыпадабняецца да гарадской. Незвычайныя вясковыя краявіды зніклі непаўторна, а жыхары нашых сёл сталі апранацца і жыць на гарадскі лад. Аднак і зараз можна знайсці на Гайнаўшчыне цікавыя месцы для фатаграфавання, толькі адшукаць іх намнога больш складана, — сказаў гайнаўскі фатограф Уладзіслаў Завадзкі.**

Ягоныя лепшыя фатаграфіі з мінулага, краявіды беларускай вёскі друкаваліся ў нашым тыднёвіку і сталі агульнавядомымі ў Польшчы і замежжы. Фатаграфіі зробленыя перш за ўсё ў ХХІ стагоддзі саставілі выставу, якая 12 кастрычніка была адкрыта ў прыстасаваным на такія экспазіцыі вялікім калідоры Гайнаўскага дома культуры.

Вернісаж прыцягнуў асобы, якія ведаюць мастацтва Уладзіслава Завадзкага і якіх цікавяць здымкі, што адлюстроўваюць адметнасці вёскі з яе незвычайнай драўлянай архітэктурай і партрэтамі старажылаў, на якіх тварах відаць адбітак складанага мінулага. Уладзіслаў Завадзкі ўмее таксама паказаць прыгожасць лясных і палявых краявідаў, з дрэвамі і зааранамі палямі, прыдарожнымі крыжамі і старымі часоўнямі, што таксама захапіла гледачоў сабраных на вернісажы. Выставу адкрыла мастацкі кіраўнік ГДК Ядвіга Лях-Кучкін, якая адзначыла ўменне мастака вышукваць незвычайнае і прыгожае ў наваколлі ды цікава і якасна ўвекавечыць на фатаграфіі.

— Я на выставу падрыхтаваў мае лепшыя фатаграфіі, якія выканаў пасля 2000 года. Толькі крыж, што стаяў каля вуліцы Горная ў Гайнаўцы, у напрамку Хітрай, я сфатаграфаваў яшчэ ў 1985 годзе. Гэты здымак быў змешчаны на першай старонцы ў «Ніве», у якой змяшчаліся таксама іншыя мае чорна-белыя здымкі. Здымак крыжа паказваўся на маіх выставах і рашыўся я запрэзентаваць яго цяпер, паколькі ў чорна-белых фатаграфій свой асаблівы клімат. Я іх выканаў мноства, адсканаваў і захоўваю ў лічбавым фармаце ў якасці архіва майго доўгага фатаграфавання. Я пачаў рабіць здымкі яшчэ ў сярэдняй школе фотаапаратам «Смена». Захапленне фатаграфіяй прадаўжаў я ў час навукі ў Політэхнічным інстытуце ў Растове, тады ў Савецкім Саюзе, дзе адукацыю закончыў у 1978 годзе. Калі працаваў настаўнікам матэматыкі і фізікі ў Пачатковай школе ў Старым Корніне, стаў фатаграфаваць яшчэ больш, у школе заснаваў фатаграфічны кружок і стаў вучыць фатаграфаванню вучняў. Навучыў я іх праяўляць плёнкі і самастойна выконваць фатаграфіі на школьных прыладах. Фатаграфічныя кружкі арганізаваў я таксама ў Жыллёвым кааператыве ў Гайнаўцы і ў Гайнаўскім доме культуры, дзе займалася са мной многа вучняў. Калі працаваў я ў доме культуры, дакументаваў урачыстасці пры дапамозе фотаапарата і камеры. Я карыстаўся ў сваім жыцці рознымі фотаапаратамі, але найбольш удалых здымкаў зрабіў фотаапаратам «Пракціка», які на той час, калі я яго купляў, быў дарагім. Каляровыя фатаграфіі я таксама адсканаваў з плёнак і захоўваю ў лічбавым фармаце. Пазней пачаў фатаграфаваць лічбавымі фотаапаратамі. Цяпер карыстаюся праграмамі, якія дазваляюць паправіць фокус і так разбудаваць здымак, што яго можна выдрукаваць на вялікафарматнай фатаграфічнай паперы і выканаць з яе вялікі стэнд, якіх тры прэзентуюцца тут на выставе, — распавядаў Уладзіслаў Завадзкі.

— Фатаграфіі Уладзіслава Завадзкага асаблівыя, бо на іх відаць клімат нашай вёскі, ад якой мала чаго ўжо засталося. Мяне захапляюць фатаграфіі Белавежскай пушчы, увогуле прыроды. Для нашага дома культуры важна, што Уладзіслаў у нас вёў фатаграфічны кружок і вучыў моладзь рабіць здымкі, — сказаў дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч.

— На здымках аўтара выставы вельмі важныя святло і колеры. Некаторыя фатаграфіі напамінаюць мне мастацкія працы, хаця б здымак з цёмнымі хмарамі або фатаграфія з маладым бярозавым лесам і чырвонымі дубовымі лісткамі на першым плане, — заявіла інструктар па справах мастацтва і рэкламы ГДК Анна Тарасюк і паінфармавала, што дом культуры выдаў буклет з лепшымі фатаграфіямі Уладзіслава Завадзкага, які падчас сустрэчы аўтар здымкаў падпісваў.

— Гэты малады беразняк я сфатаграфаваў каля Істока. Захапілі мяне чырвоныя дубовыя лісткі, якія састаўляюць цікавую кампазіцыю на фоне маладога лесу. Перш за ўсё я фатаграфую старую Белавежскую пушчу з яе магутнымі дрэвамі. Стараюся таксама злавіць цікавае асвятленне ў пушчы, якую я скалясіў на роварах. Зрабіў цікавыя здымкі лясной жывёлы, у там ліку зуброў, але гэтых фатаграфій на выставе няма. Цікава можна сфатаграфаваць адзінокія аб'екты на полі, калі сонца свеціць насупраць. На выставе паказваюцца такія здымкі. Падчас фатаграфавання будынкаў займальныя здымкі можна зрабіць, калі сонца свеціць збоку, як бачым на фатаграфіі заснежанай хаты, дзе бакавое святло *рэзьбіць* дом сваім моцным праменнем. Пра гэта ўсё можна прачытаць, але каб рабіць цікавыя і якасныя здымкі, патрэбны вопыт, які здабываецца доўгай практыкай, — сказаў Уладзіслаў Завадзкі.

— Я заўсёды стараюся вазіць фотаапарат з сабою. Выконваю здымкі ў розных абставінах, а пасля спакойна выбіраю з іх найбольш цікавыя. На падставе некаторых здымкаў малюю карціны. Тэмы маіх жывапісных прац супадаюць таксама з сюжэтамі часткі здымкаў спадара Завадзкага. У мяне ёсць карціна з клунямі на загароддзі Дашоў. Яна вельмі падобная да аднаго са здымкаў Уладзіслава Завадзкага, — сказала Тамара Кердалевіч з Чаромхі, вядомая перш за ўсё як жывапісец, якой персанальная выстава прэзентавалася ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы.

— Аб клунях у Дашах стагадовай даўнасці я даведаўся выпадкова і хутка паехаў у вёску. Здымкі, якія там зрабіў, атрымаліся цудоўнымі. На адной клуні былі выразаны год — 1774, матэматычныя падлікі і герб Пагоня. У Дашах сфатаграфаваў я таксама цікавыя асобы. На выставе прэзентуецца фатаграфія з мужчынам з Дашоў, які трымае сноп саломы ў руках і стаіць непадалёк ад засохлых дрэў і старой клуні пакрытай саломай. Такія сюжэты асабліва мяне цікавілі. Я таксама фатаграфаваў старыя дамы звонку і ўсярэдзіне. Тут ёсць здымак, на якім відаць даўнія сені з ложкам, які зрабіў я ў хаце майго цесця ў Пасечніках. На двух вялікіх стэндах прэзентую стары дом у Локніцы, побач якога відаць старое дрэва і гусей, якія састаўляюць вельмі цікавую кампазіцыю. Рабіў я здымкі ў гэтай хаце таксама ўсярэдзіне, калі памерла ўжо яе ўладальніца. Быў там засланы ложак і складалася ўражанне быццам жанчына толькі што выйшла да суседкі, — распавядаў Уладзіслаў Завадзкі.

— Я ездзіла разам з бацькам, калі ён фатаграфаваў архітэктуру, прыроду і таму засталіся мне ў памяці вобразы, якія відаць тут на некаторых здымках, — заявіла дачка фатографа Анна Баўтручук.

Яе муж Павел Баўтручук рабіў здымкі падчас адкрыцця выставы. Заявіў ён, што падабаюцца яму сюжэты вёскі і прыроды на фатаграфіях цесця. Сказаў таксама, што разам з ім фатаграфавалі некаторыя аб'екты і пасля спаборнічалі ў каго лепш атрымаецца здымак. Часцей цікавейшыя фатаграфіі атрымліваліся ва Уладзіслава Завадзкага.

На адкрыццё экспазіцыі прыбыў таксама гайнаўскі жывапісец Міраслаў Хіліманюк, які заявіў, што яму вельмі падабаюцца фатаграфіі з пушчанскай прыродай і вясковымі краявідамі, якія характэрны таксама для яго жывапісу.

Падчас адкрыцця выставы на польскай і беларускай мовах спявалі салісткі Студыі песні ГДК Марыя Савіцкая і Марлена Бяглюк. Жанчына родам з Навасадаў, дзе ўзрастаў Уладзіслаў Завадзкі, захапілася здымкам з зааранымі полем і прыродай вакол яго, зробленым каля гэтай вёскі. Жанчына з Новаберазова назвала займальнымі фатаграфіі двух старых цэркваў, якія распаложаны ў гэтай вёсцы і часоўні, што збудавана каля сяла. Вялікае значэнне для спадара Завадзкага мае здымак даўняга, старанна зробленага крыжа каля вёскі Барок. На выставе і ў буклеце можна ўбачыць таксама прыгожа аздоблены драўляны дом у Пуцісках і жанчыну з вёскі Мора ў хаце прыаздобленай на даўні лад. Цікавымі атрымаліся здымкі старых, паваленых дрэў у Белавежскай пушчы і лесу ў розныя поры года. Дзве жанчыны хацелі купіць вялікую фатаграфію з выставы з маладым бярозавым лесам і чырвонымі дубовымі лісткамі на першым плане, якая пастаянна вісіць таксама ў доме аўтара. Уладзіслаў Завадзкі заявіў, што можа зрабіць адбітак гэтага здымка на шырокафарматнай фатаграфічнай паперы. Раней ён фатаграфаваў таксама старажылаў па вёсках і гэтых фатаграфій-партрэтаў хапіла б на асобную экспазіцыю.

— Я стараюся фатаграфаваць тое, што можа быць цікавым таксама за сто гадоў, але каб гэтыя здымкі былі вартаснымі, трэба дбаць, каб яны былі таксама якаснымі, — заявіў Уладзіслаў Завадзкі, лаўрэат, між іншым, першага месца фатаграфічнага конкурсу «Драўляная архітэктура», які ладзіў Белавежскі нацыянальны парк і няўрадавая экалагічная арганізацыя WWF, удзельнік шматлікіх персанальных і калектыўных фотавыставак.



■ Ядвіга Лях-Кучкін і Уладзіслаў Завадзкі ў час адкрыцця выставы



■ Многа месца на фатаграфіях Уладзіслава Завадзкага займаюць вясковая драўляная архітэктура і крыжы

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**


Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Грамадзянскі абавязак

**Пачынаю турбавацца манатэматычнасцю сваіх тэкстаў. Адны правы чалавека ды барацьба за спакойнае існаванне незалежна ад месца знаходжання ці светапогляду.**

Ад некалькіх дзён цешуся сапраўднай польскай восенню. Так называюць сонечнае восеньскае надвор’е жыхары Крынак. А як такое надвор’е называецца ў Беларусі альбо ў Літве? А як называлі ў Крынках восемдзесят гадоў таму? Падобныя праблемы намагалася я вырашыць, вымятаючы лісце з майго панадворка і вуліцы. Асабіста, трава пакрытая жоўта-аранжавым дыванчыкам, вельмі ж мяне задавальняе. Ён рассвятляе восеньскія, сонныя дні і беззорныя ночы. Дапамагае дабіцца да хаты пасля позняй гулянкі асабліва ў адсутнасці вулічнага святла. Але ж жыву я паміж людзьмі. Тут схапіла я сама сябе: быццам мне здаецца, што я не чалавек. З другога боку такая штодзённая гонка з граблямі кругом хаты пазітыўна ўплывае на маё псіхафізічнае становішча. Панадворак панадворкам, але падмятаць вуліцу гэта перш за ўсё грамадзянскі абавязак. Здаецца за яго невыкананне пагражаюць фінансавыя штрафы.

Добрым грамадзянінам намагалася я стаць і гэтага, памятнага для большасці крынчан, дня. Нягледзячы на выхадныя, прачнулася як штодзень. Абула памятаючыя яшчэ ліцэйскія часы скураныя боты, завязала хустку і рашыла пакарыстацца запрашэннем на безграшовы гной да майго агарода. Вядома, уласным транспартам. На шчасце ёсць тачка, дзве рукі і столькі ж ног. На жаль, план мой не здзейсніўся. Замерла я з тачкай, убачыўшы аўтамабілі, праязджаючыя маёй надзвычай вузкай, надзвычай ціхай вуліцай. Гэта апошняя вуліца Крынак і Польшчы. Пра Еўрасаюз не ўспомню, мабыць, адышоў ужо ў фікцыю. Чаго ж гэта яны шукаюць на гэтым канцы свету. Грамадка людзей пачала расстаўляць нейкія металёвыя канструкцыі. Убачыўшы пасярод іх узрадаваную суседку, я зразумела што справа будзе касцельная. Некалькі дзён таму з любімага «Тыднёвіка повшэхнага» даведалася я пра рыхтаванне акцыі «Ружанец да граніц». Я зразумела, што вось пад маёй хатай арганізуюць так званую зону малітвы. Не знайшла адвагі, каб звярнуцца да занятых працай людзей са сваімі пытаннямі. Яны ведалі ўсё, я нічога. Быццам ужо ў нейкім ваенным стане стаялі мы па супрацьлеглым баку барыкады. Давай бегчы да некасцельнай суседкі, падымаць яе з ложка. Яна толькі пацвердзіла мае чорныя прагнозы. Выпіўшы ранішнюю каву, спакавала дзяцей і паехала да мамы ў Беласток. А я не ведала дзе «ўпасць, ці ў гаўно, ці ў масць» — як кажуць мясцовыя старажылы. Ведала, што ў хаце не змагу застацца, каб не паявіліся прыкрыя асацыяцыі з любімым месцам. Пазваніла я да вельмі рэлігійнай сяброўкі, каб даведацца, колькі часу мне засталося. Аказалася, зусім няшмат. Прыняла хуткае рашэнне: адны граблі мне, другія дачцэ і давай выконваць грамадзянскі, патрыятычны абавязак. А тут што не замяцеш, новае лісце падае. Мае ліпы старыя, вялікія. Усе разумнейшыя даўно ўжо пазбыліся такога клопату. Нават пад царквой няма чаго збіраць, таму што адны ліпавыя куксы пазаставаліся. Больш таго, нават эколагі са славутай «Гаі» паблаславілі высечку серабрыстай хвойкі з-пад Сакратавай хаты. Хацела дрэў дык цяпер прыбірай, — пэўна смяецца паціху суседка, якая таксама пачысціла свой панадворак з непатрэбных, старых ліп. Пакуль што на такую працу не наракаю, нават са школьнікамі ў рамках валанцёрства пачысцілі касцельныя і царкоўныя пляцоўкі. Пасля на дзвярах сваёй бібліятэкі павесіла картачку: «Лепш лісце грабіць, чым танцаваць дыска-пола». Але часам сабе думаю, што гэта будзе, калі пастарэю і не змагу ўжо так часта і жыва займацца апалым лісцем. Напэўна прыйдуць з гміны і ссякуць мае ліпы.


Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

— Не хвалюйся, — праходзіць міма адзін з членаў мясцовага савета, — усё роўна затопчуць. Ужо прыйшло тысяча чатырыста заявак толькі ад прыезджых, а яшчэ колькі нашых прыйдзе і незарэгістраваных...

І я проста збялела ад уражання, але быццам нічога не здарылася, з усмешкай вярнулася да свайго лісця. Працавала быццам у трансе, аблівалася халодным потам.

— А што гэта тут адбываецца? — зачапіў мяне чарговы прахожы, мясцовы дэнатуршчык

— Манеўры, — адказала, не адрываючыся ад працы

— Якія манеўры?

— Рэлігійныя.

— І што, войска сюды прыйдзе?

— Прыйдзе, у чорных сутанах, — аб’ясніла, страчваючы цярплівасць да цемнаты яго розуму.

Рэлігійная сяброўка запрашае мяне да ўдзелу ў малітве. Яна зусім не заўважае ніякай прапаганды, ніякага палітычнага кантэксту.

— Маю за што Богу дзякаваць, — аб’ясняе.

Але я рашуча адмовілася. Які тут ружанец да граніц. Дык любоў не ведае граніц. Калі б гэта малітва была за мір на свеце, за тую ж любоў, я б першай там з імі стаяла. Яшчэ напрыканцы лета сустрэла я ластаўку таго ж ружанца — маладога чалавека з посахам у руцэ, недзе з Прымор’я, але родам з Холмшчыны. На самой справе пасля кароткай размовы выявілася, што яго свет быў вельмі абмежаваны. Ён вызначаў у дажджы, голадзе і холадзе кіламетры сваіх абмежаванняў. Помню, пажадала я яму тады духоўнага прабуджэння. Вельмі ж здзівіўся.

Іншая знаёмая ўжо выгадавала двух сыноў. Вывучыла, дзякуючы мужу, які здаўна цяжка і сумленна працуе ў Нямеччыне. Для яе ружанец гэта абарона перад уцекачамі з Усходу. Баіцца іх нехрысціянскасці і невядома чаго яшчэ. Прызнаецца, што муж асабіста ніколі не скардзіўся на паводзіны эмігрантаў, хаця жыве менавіта ў найбяднейшай, найбольш эмігранцкай частцы аднаго з немецкіх гарадоў. А і яна сама неаднаразова, пабываючы там у гасцях, нічога кепскага ад іх не спаткала.

— А ты бачыла ў інтэрнэце як эмігранты шведку гвалтавалі? — пытае мяне чарговая ўдзельніца ружанца.

Нічога не адказваю. Бываюць такія пытанні, на якія адказваць не варта. У тым жа інтэрнэце напісалі пра страляніну ў цэнтры Саколкі. Хто знаходзіўся ў аўтамабілі з прастрэленымі коламі, які ўцёк у бок Кузніцы? Падазрэнні маёй знаёмай адразу ўпалі на грамадзян Беларусі. На каго ж яшчэ. Але гэта далёка не канец небяспечнай забавы інтэрнэтам.

— Зямля рухаецца, глянь, — паказвае знаёмая.

Фактычна, ні следу навальніцы, а дрэва адно за другім падаюць на дарогу. Акцыя праходзіць недзе ў Расеі, распазнаю па рускай папсе і нескладаных каментарыях роліка. Але раптам паяўляюцца бульдозеры. Значыць, апакаліпсіс яшчэ не наступіў. Найгорш, што сяброўцы зусім не стала сорамна. Ёй нават у галаву не прыйшло, што шведскія ролікі, якія будуюць яе светапогляд, магчыма запісаны на падобных прынцыпах, з падобнай мэтай.

Не паспяваю ні памыцца, ні паабедаць. Перавязваю галаву святочнай хусткай, пакую дачку ў аўтамабіль і ўцякаем як найдалей.

Суседка кідае на мяне апошні, варожы позірк. Так менавіта глядзяць на здрадніка народа. А яна якраз развешвае з сынам на плоце бел-чырвоныя транспаранты. Ужо сунуцца аўтамабіль за аўтамабілем. Ледзь паспяваю выехаць з Крынак.

* * *

Вяртаюся па ўсім. Вячэрняя цішыня. Сяджу на парозе сваёй хаты. Быццам нічога не здарылася, толькі стрэлы дабягаюць ад усходу. І не ведаю ці гэта беларусы да нас страляюць, ці можа мы да беларусаў.

Іаанна ЧАБАН

# Засталіся адно ўспаміны (24)



У Кузаву мы пераязджалі з Дабрывады пасля вячэрніх сеансаў. Сваю вёску я ў маршрут заносіў на святочны дзень або нядзелю. Больш людзей тады прыходзіла. І хоць у Кузаве школы не было, па нядзелях арганізавалі ранішнікі для дзетак. ВПК аб'явіла спаборніцтва паміж брыгадамі кінаперасовак. Чым больш публікі і прыбытку грошай, дык брыгада атрымлівала большыя прэміяльныя. У царкве ў Кузаве адзначаюцца два важнейшыя парафіяльныя святы: св. Тэклі — 7 кастрычніка, і св. Варвары — 17 снежня. З кінаперасоўкай мы заязджалі ў пачатках месяца. Калі я пісаў у кастрычніку маршрут, дык абавязкова на 7 чысло запісваў Дабрываду, а наступнага 8 чысла — Кузаву. А ўсё дзеля таго, каб увечары трапіць яшчэ на святкаванне Тэклі. І наступны дзень лічыўся святочным, бо палявыя работы былі закончаны і можна было зрабіць паблажку.

Запамяталася мне адно здарэнне з пачатку шасцідзясятых гадоў. У Кузаве актыўна дзейнічалі грамадскія арганізацыі — Саюз вясковай моладзі (ЗМВ) і Ліга сяброў салдат (ЛПЖ). На Тэклю заўжды арганізавалі забавы. Так было і ў 1963 годзе. Гурток ЗМВ арганізаваў білетную забаву. Калі мы з Дабрывады пад'ехалі пад святліцу каля дзясятай вечара, дык забава была ў поўным разгары. Але для моладзі жанатыя хлопцы не дазволілі прадаваць білетаў. Тлумачылі, што ў Кузаве на прыхадское свята не практыкавалася з гасцей браць грошы. Паколькі я ўзначальваў гурток ЗМВ, дык выпадала мне з кавалеркі збіраць грошы на музыкантаў і для іх на пачастунак.

Але не адна на гэты дзень выпала асечка. Перад поўначчу ўсчалася бойка ў святліцы. Пачалі прыезджыя чарамшане. У тадышнім часе гэта былі найгоршыя «забіякі» ў наваколлі. Усчыналі калатнечу без прычыны. У гэтым выпадку пайшло за дзяўчыну. Кузаўская паненка адмовілася танцаваць з п'яным асобенем. Тады заказалі зайграць ёй «марш». Не было ў тадышні час горшага сораму для дзяўчыны, як выдаленне з забавы пад гукі «марша». Пачалася суматоха. У рух пайшлі кулакі і крэслы. За кузаўскай кавалеркай сцяной сталі жанатыя мужыкі. Са святліцы натоўп кульком выкаціўся на вуліцу. Хтосьці клікаў паратунку. Калі я падышоў бліжэй, дык пазнаў чаромхаўскага кандуктара. Кузаўскія кавалеры цягнулі яго ў рэчку.

— Валодзя, ратуй, хочуць мяне ўтапіць!...

Вызваліў я бедалагу. Бойка пакрысе згасала. Але атмасфера была напружаная. Трэба было глядзець, каб з-за вугла нехта не рубануў калочкам. Так гэта калісьці бывала на вясковых забавах. Добра што абышлося без хуткай дапамогі.

А наша брыгада наступнага дня рыхтавалася да вечаровых сеансаў у Кузаве. Пасля маёй перапалкі ў ВПК не было яшчэ ў нас прымірэння. Трэба было сачыць за парадкам і не даць кампаньёнам нагоды для чарговай «атакі», бо, як сказала мне старшая інспектар Гедрайць, чарговай паблажкі не будзе.

(праця́г будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

# Медалі для найлепшых

Інаўгурацыя школьнага года ў Беластоку адбылася 5 верасня. З гэтай нагоды восемдзесят дзевяць вучняў і семдзесят сем настаўнікаў атрымалі медалі «Diligentiae» за пільнасць і прыклад для іншых. Медаль упершыню ўстанавіў у 1767 годзе кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. У Беластоку медалі былі ўручаны каралём у 1784 годзе. Такой пашаны ўдастоіўся і Кшысек Смык, вучань Комплексу прафесіянальных школ № 5 у Беластоку. Апрача медаля «za pilność i mądrą postawę» атрымаў ён ганаровую грамату, падпісаную Тадэвушам Трускаляскім, прэзідэнтам горада Беластока. Віншуем !!!

**(ус)**





# www.dfk-ashmyany.by

Пэўна, няма ў свеце больш захапляльнай гульні, чым футбол. У яго гуляюць, пачынаючы ад маленства і пакуль старыя косці і мышцы будуць здольныя ганяцца за мячом, каб ударыць па ім у накірунку брамы праціўніка. Футболу прысвячаюць нават песні, а члены каманды, якая перамагае ў сусветных спаборніцтвах, у сябе на радзіме часцяком лічацца амаль нацыянальнымі героямі. У сувязі з гэтым варта толькі ўзгадаць вынікі разнастайных чэмпіянатаў свету па футболе, калі каманду-пераможцу ў аэрапортах сустракалі сотні радасных заўзятараў.

Сярод беларусаў таксама ёсць моцныя каманды і асобныя гульцы, хоць пакуль яны не дасягнулі славы Пеле, Марадоны, Раналду, Мэсі ці Левандоўскага. Разам з тым не варта выключаць магчымасць хуткага ці не вельмі хуткага з'яўлення беларускага футбаліста, які ўстане побач з пералічанымі імёнамі. І не выключана, што месцам, дзе ён атрымае першы досвед гульні стане грамадскае аб'яднанне «Дзіцячы футбольны клуб», а дакладней, яго філіял у Ашмянах, што на Гарадзеншчыне. Каб пазнаёміцца з ім падрабязней, варта зайсці на сайт **www.dfk-ashmyany.by**, які на дзіва мае толькі беларускую версію.

„У сваёй працы спартыўнае грамадскае аб'яднанне «Дзіцячы футбольны клуб» філіял Ашмяны арыентуецца на сістэму падрыхтоўкі дзяцей у Германіі, і ставіць сабе за мэту развіццё масавага футбола. Для таленавітых і мэтаскіраваных, мы даем магчымасць паспрабаваць свае сілы ў прафесійных футбольных клубах. Для тых, хто не імкнецца зрабіць кар'еру прафесійнага футбаліста, трэніроўкі па футболе не зробяцца пустым марнаваннем часу. Наадварот — лепшае, што ёсць у дзіцячым футболе — гэта не выматваючая гонка за кар'ерай, а карыснае захапленне дзіцяці, якое паляпшае здароўе, фармуе характар і дазваляе знайсці шчырых сяброў", — распавядаецца на галоўнай старонцы футбольнага сайта. Цікава, што ў даным футбольнымі клубе адсутнічае які-кольвек адбор. Гэта тлумачыцца жаданнем даць магчымасць кожнаму дзіцятку праявіць сябе. „У «Дзіцячы футбольны клуб» можа быць запісаны любы хлопчык альбо дзяўчынка, незалежна ад наяўнасці альбо адсутнасці футбольных навыкаў", — указваецца на старонцы „Аб клубе".

Увогуле сайт клуба пабудаваны вельмі прафесійна і таму прыцягальна. Усе расповеды і карысная інфармацыя змешчаны на белых палях, якія ў сваю чаргу знаходзяцца на фотаздымках, дзе можна пабачыць юных футбалістаў. Адметна, што і навіны на сайце абнаўляюцца даволі часта, і апошняя інфармацыя датуецца сярэдзінай кастрычніка. Дарэчы, у ёй ходзіць пра нежаданне адміністрацый школ недалёкага ад Ашмянаў Астраўца дапусціць трэніроўкі для мясцовай дзятвы ў тамтэйшых спартовых залах. „Бо гэтыя маленькія футбалісты абавязкова растаўкуць усе лямпы, абаб'юць фарбу на сценах і ў давяршэнне ўсяго цалкам зруйнуюць залы. Напэўна, спартыўныя залы ў школах будуюцца для таго, каб там увогуле нікога не было", — з крыўдай пішуць у нататцы кіраўнікі дзіцячага футбольнага клуба.

Сайт яшчэ ўтрымлівае звесткі пра магчымасць звязацца з клубам. На старонцы „Кантакты" цікаўны карыстальнік знойдзе кантактную асобу, яе тэлефон, а таксама іншыя спосабы камунікацыі.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з Календара

Чорная ноч беларускай гісторыі



# 80 гадоў з дня масавых рсстрэлаў у Мінску

У ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 г. савецкі НКВД здзейсніў у Мінску жудасны масавы расстрэл больш за 100 прадстаўнікоў беларускай інтэлектуальнай эліты — вядомых дзеячаў культуры, мастацтва і навукі, а таксама грамадскіх дзеячаў тагачаснай БССР. Расстрэлы адбыліся ў сутарэннях менскай унутранай турмы НКВД («амэрыканкі»). Пазней суды СССР амніставалі большыню рэпрэсаваных у сувязі з іх невінаватасцю. Такім чынам, у гэтыя дні рэпрэсіі, якія чыніла кіраўніцтва СССР у тыя гады па ўсёй краіне, дасягнулі ў Беларусі свайго піку, бо з 4 сакавіка 1937 г. да 22 траўня 1938 г. (444 дні) на Беларусі агулам было рэпрэсавана каля 100 тысяч чалавек (у сярэднім за ноч арыштоўвалі па 230 чалавек).

У архіве прэзідэнта Расейскай Федэрацыі (АПРФ, вопіс № 24, справа № 411) захоўваецца «Спіс асоб, падлеглых суду ваеннай калегіі Вярхоўнага суда Саюза ССР». У спіс уключаны асобы з усяго Савецкага Саюза. Ён датаваны 7 верасня 1937 г. і падпісаны І. Сталіным, В. Молатавым, Л. Кагановічам, К. Варашылавым, М. Яжовым. Спіс засуджаных па першай катэгорыі (да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу) па Беларускай ССР налічвае 103 чалавекі, па другой катэгорыі (прыгавораны да 10 і болей гадоў зняволення ў савецкіх канцлагерах) — 6 чалавек. Спіс па Беларускай ССР датаваны 15 верасня 1937 г. і падпісаны І. Сталіным, В. Молатавым і начальнікам 8-га аддзела Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай бяспекі СССР старшым маёрам дзяржаўнай бяспекі Уладзімірам Цэсарскім.

У дадатак да першапачатковага спісу, які паступіў з Масквы, мясцовымі супрацоўнікамі НКВД БССР былі дададзены яшчэ шэраг дзеячаў. У ноч на 30 кастрычніка злачынны загад быў выкананы.

У ліку расстраляных у тую ноч былі 22 беларускія пісьменнікі. За 3 месяцы да расстрэлу, 1 жніўня 1937 г. ва ўнутраным двары Мінскай турмы НКВД БССР спалілі некалькі дзясяткаў тысяч рукапісаў ненадрукаваных твораў тых пісьменнікаў, што не прайшлі цэнзуру. Сярод забітых былі Платон Галавач, беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч; Хацкель Дунец, беларуска-яўрэйскі пісьменнік; Алесь Дудар (сапр. Дайлідовіч), беларускі паэт, крытык; Міхась Зарэцкі (сапр. Касянкоў), беларускі пісьменнік; Васіль Каваль (сапр. Кавалёў), беларускі пісьменнік, журналіст; Валеры Маракоў, беларускі паэт; Васіль Сташэўскі, беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч, удзельнік Слуцкага паўстання; Міхась Чарот (сапр. Кудзелька), беларускі паэт грамадска-культурны дзеяч; Анатоль Вольны (сапр. Ажгірэй), беларускі паэт, празаік, кінадраматург, журналіст; Тодар Кляшторны, беларускі паэт; Майсей Кульбак, беларуска-яўрэйскі празаік; Юрка Лявонны, беларускі паэт і перакладнік; Сяргей Мурзо, беларускі паэт і настаўнік; Янка Нёманскі (сапр. Пятровіч), беларускі празаік і грамадскі дзеяч; Юлі Таўбін, беларускі паэт і перакладнік, і іншыя. Сярод расстраляных у тую ноч таксама такія вядомыя асобы як Ананій Дзякаў, рэктар БДУ ў 1934-35 гг.; Захар Кавальчук, старшыня ЦК прафсаюзаў БССР; Язэп Каранеўскі, дзяржаўны дзеяч і педагог; Мікалай Кандрашук, начальнік упраўлення шкляной прамысловасці Наркамата БССР; Ігнат Афанасьеў, выкладчык Мінскага Беларускага педагагічнага тэхнікума; Вадзім Башкевіч, начальнік Упраўлення вышэйшай школы Наркамата асветы БССР, і іншыя.

Светлая памяць ахвярам савецкага тэрору і генацыду...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



3 ☞ працяг

# Колеры шляху да Бога

ляе пры дапамозе фарбаў. Такі чалавек павінен знаходзіцца ў такім якраз свеце, значыцца я быў бы неверагодны, калі б я быў няверуючы і пісаў іконы. Вопытныя іканапісцы ў змозе паглядзець на ікону і сцвердзіць ці ў творцы падчас пісання быў унутры эмацыйны лад ці недахоп гармоніі ды нават беспарадак.

**Мастацкая дзейнасць Грышы Зінкевіча ў сакральным напрамку гэта таксама фрэскі. Паводле мастака, асаблівасць гэтага віду заключаецца між іншым у агуле матываў, якія бачым у манументальных кампазіцыях на сценах храмаў.**

— На фрэскі трэба глядзець цэласна. Значыцца, мы не выбіраем дэталяў, толькі глядзім на цэлую царкву. Гэта проста гармонія кампазіцый, арнаментаў, колераў, дэкаратыўных элементаў і ўсё гэта творыць цэласць. Таксама іншай ёсць спецыфіка працы — робіцца хутчэй, вялікія фарматы, карыстаючыся вялікім пэндзлем. Падчас малявання няма такой дбайнасці аб дэталі як пры іконах, таму што знізу гэтага ўсё ж такі не відаць. Для малявання фрэсак мы карыстаемся г.зв. сілікатавымі фарбамі. Яны выкананы на аснове земных фарбаў, пігментаў, якімі карыстаемся падчас пісання ікон, але тут такім напаўняльнікам, эмульсіяй з'яўляецца сілікат калію. У час працы над фрэскамі карыстаемся цвёрдымі пэндзлямі, бо вядома што малюем на тынку, цвёрдым, шорсткім палатне — часам жартуем, што мы робім тое быццам па наждачнай паперы. У адрозненні ад іконы, тут трэба маляваць моцнай рукой, робіцца тое ў розных пазіцыях, часта нязручных, дык пасля зыходу з рыштаванняў чалавек адчувае сапраўдыаграмадную стомленасць. Пісанне фрэсак адметнае таксама тым, што дзеля тварэння такога віду мастацтва лепш, каб была сабраная цэлая брыгада — некалькіх іканапісцаў ды таксама тэхнічныя дапаможнікі, якія прыкладна малююць фон прац. Самастойна маляваць фрэскі гэта фізічна ды ментальна складаная задача. Я адносна доўга супрацоўнічаю з Яраславам Вішанкам з Мельніка, працую таксама з Наталляй Аніська, Дар'юшам Федарчуком, якія з Беластока.

**Своеасаблівыя прадукты імкненняў Грышы перадаць вобраз жыцця святых ды іх выявы, можна пабачыць не толькі ў храмах Беласточчыны ці іншых раёнаў Польшчы.**

— Мае фрэскі могуць убачыць наведвальнікі царквы Каспераўскай іконы Божае Маці ў Відаве. Там сцены аздоблены маімі аўтарскімі працамі. Таксама сам упрыгожыў я сцены ў капліцы ў Духоўнай семінарыі ў Варшаве, ды капліцу Студэнцкага дома ў варшаўскай мітраполіі. Дапамагаў я маляваць Ярку Вішанку ў храме св. Юрыя Пабеданосца ў Беластоку. Мы тварылі разам таксама ў царкве Іконы Божай Маці Усіх Смуткуючых Радасць у Такарах, у трапезнай царкве на Святой Гары Грабарцы, у Шчэціне, наведалі мы таксама Ніжнюю Сілезію, дзе ў вёсцы Рудная мы прыаздобілі сцены ў царкве Уздзвіжання Крыжа Гасподняга. Калі ідзе пра мае іконы, можна сказаць, што яны знаходзяцца ў цэлай Польшчы ды таксама па-за яе межамі. Найдалей, скуль прыйшоў заказ, гэта Канада. Што цікавае, святар зацікаўлены маёй іконай аказаўся індзейцам. Іншыя заказы былі проста з Еўропы, Амерыкі, у прынцыпе не прыйшлося толькі пісаць ікон у Аўстралію. Замежныя заказы паступаюць найчасцей ад прыватных асоб, у Польшчы гэта наогул цэрквы, прыкладна ідзе тут пра іканастасы, святочныя іконы, таксама вялікага фармату.

**Мастак перакананы што жыццёвы ды творчы шлях, які пачаў ужо больш за 20 гадоў таму, быў адпаведным выбарам:**

— Несумненна віды творчасці, якімі я займаюся, гэта мая вялікая страсць, але перш за ўсё, у такім духоўным сэнсе. Калі б прыкладна нехта спытаў: «Грышка, ці Ты зараз змог бы памяняць прафесію, ці Ты пайшоў бы кудысьці інакш працаваць, рабіць штосьці іншае?», я ўпэўнены, што адказаў бы адмоўна. Я зусім не бачу сябе ў іншых галінах. Ікона дае мне такі духоўны спакой, хаця адначасова ведаю, што часта гэты спакой можна страціць, што ён бывае нестабільны, але працую над гэтым, каб яго было чым больш. У выпадку фрэсак чалавек мае глыбокую задаволенасць, што мае распісаную царкву. Тыя малюнкі гэта ўжо аб'ект вялікага фармату і ён дае такое адчуванне, што чалавек робіць нешта вельмі важнае, што гэта заўважальнае гледачу. Ікона, можа брыдка кажучы, можа быццам «згубіцца» гледачу, вядома што ў царкве наогул ёсць шмат ікон. Але фрэска ўжо іграе сваім аб'ёмам, сваёй вялікасцю.

❖Тэкст і фота
**Мацея РАЦІНЕЎСКАГА**

# На рэабілітацыйным аддзяленні (8)

Ад двух гадоў змагаюся з дэгенерацыяй суставаў і пазваночніка. У траўні праходзіў пяцітыднёвую шпіталізацыю на рэабілітацыйным аддзяленні ў Гайнаўцы. Атрымалася малое палягчэнне. Пахадайнічаў я за фінансавай падтрымкай у Павятовым цэнтры дапамогі сям'і і атрымаў накіраванне на двухтыднёвую рэабілітацыйную змену ў Белавежу ў тэрміне з 20 жніўня па 2 верасня.

У нядзелю нас закватаравалі ў Доме сацыяльнай апекі «Ракітнік». Мне вызначылі двухмесны пакой на трэцім паверсе. У 13:00 мы паабедалі, затым у 16 гадзін прайшлі лекарскае абследаванне. Артапед запісаў мне дзве працэдуры: лазер і магнітнае поле левай ступні. Калі хтосьці хацеў бы пакарыстацца дабавачнымі працэдурамі, дык вымушаны быў бы несці плату па вызначаных стаўках 7-9 злотых у дзень. У час зборкі ставілася дзесяць чалавек. У панядзелак адбылося знаёмства з кіраўнікамі пансіяната: дырэктарам Мікалаем Галёнкам, кіраўнічкай Аняй Шаўкала, затым рэабілітантамі: Пятром Харкевічам, Магдай Сікорскай і Аняй Леанюк. Група наша лічыла трынаццаць чалавек — сем жанчын і шэсць мужчын, з гэтага ліку сем чалавек было з Гайнаўшчыны і па дзве асобы з Беластока, Мендзыжэца-Падляшскага і Алесніцы. Рэабілітанты ўручылі курортнікам тэрміны вызначаных працэдур і мы падаліся на заняткі. Зала практыкаванняў і лячэбныя кабінеты абсталяваны высакаякаснай апаратурай. Знаходзіліся яны на першым паверсе непадалёк сталовай. Пансіянат «Ракітнік» пазбаўлены архітэктурных бар'ер. Інваліды карыстаюцца ліфтам. І самая важная справа — мілая абслуга і добразычлівыя адносіны да хворых годны пераймання. Але аб гэтым іншым разам.

(працяг будзе)

❖**Уладзімір СІДАРУК**

# 29.10 — 04.11

**(22.03. — 20.04.)** 29-30.10. мусіш стаць перад тымі, каго раней ты пазбягаў. Менш нервуйся, не выяўляй залішняй актыўнасці. Надай увагу здароўю, таму што імунітэт аслаблены. Не ўдзельнічай у славесных сварках або бах на кулакі, бо прайграеш. Прачынайся на гадзіну раней, чым звычайна, і праводзь гэты час з карысцю. Менавіта ад цябе залежыць тое, як пойдуць твае справы. Дзейнічай разважліва і ўзважана.

**(21.04. — 21.05.)** Дастаткова хвалюючы час. Будзеш значна залежаць ад меркавання навакольных. Не варта зацыклівацца на крыўдах. Добрасумленна выконвай свае абавязкі. Галоўнай рухаючай сілай з'явяцца форс-мажорныя сітуацыі ў партнёрстве па працы. Некаторым будзе цяжка захаваць добрыя адносіны; можа, варта звесці кантакты да мінімуму. Праца можа быць звязаная з небяспечнымі сітуацыямі. Могуць падвесці іншыя людзі.

**(22.05. — 22.06.)** У кастрычніку купля месяца. Купі нешта для дзяцей ці каханага чалавека. Удалыя закупкі пра запас прадуктаў, дробязей для дому, можаш зэканоміць. Могуць узнікнуць складанасці ў асабістых адносінах. Пачне табе здавацца, што на цябе ціснуць. Пазней усё хутка зменіцца да лепшага. Верагодна, твае пазіцыі не будуць ацэнены і канкурэнты атрымаюць шанц, якім могуць і не скарыстацца.

**(23.06. — 23.07.)** У кастрычніку для Ракаў, якія працуюць у арганізацыях, шмат магчымасцей, якія дапамогуць праявіць сябе з лепшага боку і зарэкамендаваць сябе як выдатнага прафесіянала. Галоўнае, каб твае дзеянні, рашэнні і заявы не былі хаатычнымі, усюды павінен быць парадак і паслядоўнасць дзеянняў. Будзеш настроены на добрыя зносіны з хатнімі і каханымі. Спадабаецца табе сустракацца са старымі сябрамі.

**(24.07. — 23.08.)** Больш за ўсё будуць цябе хваляваць пытанні, звязаныя з сям'ёй і фінансавымі справамі. Будзеш актыўным і пачнеш зараджаць усіх навакольных энергіяй. Сітуацыі могуць круціцца вакол здаровага ладу жыцця. Хтосьці залішне перашчырые ў спорце або на мерапрыемстве, і адчуе сябе стомленым і хворым. Для некаторых Ільвоў хатнія жывёлы стануць галоўным аб'ектам заняткаў.

**(24.08. — 23.09.)** У цябе з'явіцца магчымасць значна рушыць на любоўнай ніве, тым больш што надыходзіць чарговы гадавы перыяд, калі Дзевы могуць уступіць у шлюб, сустрэць сваю любоў і наогул сур'ёзна вызначыцца ў асабістых прыхільнасцях. Табе парэкамендуюць працу або падпрацоўку сваякі, любімая асоба паспрыяе павелічэнню твайго даходу. А тваё абаянне і краса дапамогуць табе дасягнуць высокай пасады на службе. Пачынаючыя вучобу абавязкова дойдуць да дыплома.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш аслаблены больш звычайнага, схільны да інфекцый, няўпэўнены ў сабе і сваіх сілах. Потым наступіць супрацьлеглы перыяд, калі зможаш усё — схуднець, загартавацца. Асноўныя тэмы звязаныя з пытаннямі маёмаснага характару. Спатрэбіцца зрабіць шмат пакупак: на лячэнне, падарожжа, аплату кансультацый... Стрымлівайся ад азартных мерапрыемстваў.

**(24.10. — 22.11.)** Рознагалоссі са сваякамі, выкліканыя фінансавымі праблемамі. Купля месяца. Але верагодныя страты, звязаныя з тваім актыўным жыццём — паездкамі, тусоўкамі, спатканнямі. Небяспека дазволіць сабе лішнія выдаткі. Але сарганізуй для сябе свята, адарвіся ад спраў і рабі, што хочаш. Новыя эмоцыі, яркія ўражанні, цікавыя знаёмствы дапамогуць аднавіць выдаткаваную энергію, набрацца сіл і вярнуць прагу да жыцця.

**(23.11. — 22.12.)** У кастрычніку навала планет можа ўскладніць твае любоўныя адносіны з-за барацьбы за ўладу. У працы такія пачуцці цалкам дарэчныя, але ў каханні здольныя прынесці толькі расчараванне. Добры перыяд для тых з вас, хто гатовы праявіць гнуткасць, больш прыслухоўвацца да меркавання іншых, перагледзець свае паводзіны, асабліва ў пытаннях, якія тычацца кар'еры і асабістага жыцця.

**(23.12.—20.01.)** Добры перыяд, калі ты не толькі павялічыш свой статус, але і прыцягнеш новых сяброў і знаёмых. А твая сціплая манера паводзін у гэты час толькі згуляе табе на руку. Надыходзіць перыяд выдатных перспектыў на працы. У першай палове лістапада ў цябе будуць усе шанцы дамагчыся кар'ерных поспехаў

**(21.01. — 19.02.)** Славалюбства — асноўны рухавік твайго росту. Сонца падштурхоўвае цябе да новых дасягненняў. Ты вельмі адчувальны да ацэнак навакольных. Значэнне будуць мець сяброўскія сувязі, якія маглі нядаўна абнавіцца альбо змяніцца. Ад гэтага зменіцца і тваё жыццё. Многае будзе залежаць ад цябе. Сачы за захапленнямі дзяцей, не дапушчаючы да траўманебяспечных сітуацый.

**(20.02. — 21.03.)** Добры перыяд для тых, каму трэба зрабіць ураженне на навакольных. Будзеш цэнтрам прыцягнення і аб'ектам сімпатыі прадстаўнікоў абодвух полаў. Рыхтуйся да таго, што на працы могуць узнікнуць праблемы, вырашаць якія табе трэба будзе разам з кіраўніцтвам.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**1.** рад приступак для пад'ёму і спуску, у якім... лес, **2.** частка нагі, якая асацыюецца з Ахілесам, **3.** мясцовасць, куды ўцяклі манахі з Гарадка, **4.** гістарычны горад на захадзе Узбекістана, які ў... архівах, **5.** вялікае памяшканне ў грамадскіх будынках для чакання, **6.** даўняя прылада аратага, **7.** руплівы нагляд, **8.** пачуццё ўспрымання гукаў, **9.** занятак сейбіта, **10.** спорт Вікторыі Азаранкі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | | | |
| | 2 | | | 3 | | 4 | | | |
| | | | | | 5 | | | | 6 |
| | 7 | | | | | | | | |
| | | | 8 | 9 | | | | | 10 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 41 нумара**

Ван, го, міліцыя, пякарня, сетка, туш, указ, шафран, Шо.

Рашэнне: **На святога Францішка шукае зярнят у полі мышка**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірaслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00} – 18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Табе, Слова, кланяліся і верылі

Гэта Сакратава, Яновічава. З Малітвы да роднага слова. І Яны ўсе, тыя, і Сакрат таксама, што адышлі ад нас на той бок, далей — «нават з таго боку ніву дагладаюць, свой вольны дух нашчадкам высылаюць», «у песні, што жаўруком узаўецца, што адазвецца і слязой, у сэрцы».

Яны адышлі, ды нас не пакінулі. Засталіся іх словы. Словы — якія мелі ўвекавечыць перш за ўсё ўсіх нас тут, на сваёй зямлі. Хоць бывалі яны, тыя словы, запісам няўпэўненасці і трывог аўтара, які, хацеўшы паказаць шлях, мог і памыліцца, і аступіцца, і заблукаць. Бывала, што быў вельмі самотны, хоць за ім стаяў народ, і *кніжку яны мелі*, — і ён, і той народ, які часта ды лёгка забываўся або і намерана станавіўся нярадным, чужым, а нават варожым, далёкім, калі нават акружаў паэта з усіх бакоў. Міхась Шаховіч (1953-2000) напісаў: *Усіх нас калісьці згэтуль вецер адкіне. Важна б — застаўся след у каляіне, і травы шапталі б успаміны ў даліне, і чырвані спелай не ўкралі б у каліны, і спевы плылі б аб прышласці нашай...* І словы з ягонага верша з апошняй кнігі, выдадзенай пры яго жыцці (хоць ужо першая мела загаловак „Прамінанне") апынуліся на надмагільным помніку на гарадскім могільніку ў Беластоку на магіле паэта, які ў нестарыя гады пакінуў Бацькаўшчыну. Асаблівы сум агортвае сяброў і калег, калі адыходзіць творчы чалавек у разгары сіл, шчыры прапаведнік ідэй, які не да канца яшчэ выявіў сваю патэнцыю і шмат мог бы яшчэ зрабіць не толькі для самых блізкіх асоб. Праз няпоўны год зусім недалёка ад магілкі сакоўскага Міхася, на копчыку жоўтага пяску леглі вянкі, сярод якіх красаваўся адзін з вершаў па-беларуску — Валодзі Дарашкевіча (1941-2001), родам з Меляшкоў, пляменніка «нашаніўца» Янука Д. Той маёвы верш друкаваўся ў першай беларускай кнізе на Беласточчыне «Рунь» (1959). І так як вершы, якія чыталіся над магілай Шаховіча, і верш «Люблю» вызвалі стрымліваныя слёзы родных, знаёмых, меляшкоўцаў, бо свяціла маёвае сонца, і яны ж любілі сваё, што і памерлы паэт, і той *май, калі сады раскрыюць кветкі на ўвесь пах, а раз кашлаты дуб стары трапеча сонца ўгары...* Апошнія вершы прыслаў паэт у «Ніву» неўзабаве да свае неспадзяванае смерці, вярнуўшыся з далёкіх шляхоў, адрабіўшы сваё чатырнаццаць прафесій. Дарыў ён вершы людзям да канца. У Меляшках пакінуў свой вялікі скрутак твораў у матулі, — каб нам перадала. Не меў ён пачуцця нейкай місіі паэзіі ды каштоўнасці таго, што ствараў. Гэта была проста радасць для душы ў далёкай старонцы. Лёг ён таксама сярод сваіх і не сваіх — на агульным гарадскім могільніку ў Беластоку, праз квартал да магілы іншага аўтара-«белавежца» родам з суседняй гміны, Міхалоўскай, празаіка і ніўскага журналіста Васіля Баршчэўскага (1931-2000) з Бандароў. Запамятаўся ён гісторыямі пра тутэйшых моцных людзей, асабліва пра рыбакоўскага арэля Моцнага Янку. Ішлі следам аўтары твораў пра тыповых і незвычайных нашых людзей, разважалі і над тыповымі рэдкімі сітуацыямі, як Вінцук Склубоўскі, вядомы юрыст, чалавек вялікіх ведаў і сэрца, аўтар апавяданняў з судовых аналаў, друкаваных у альманахах «Белавежы» і ў «Ніве». Пахаваны ён таксама на гэтым могільніку, непадалёк магілы ў радзе заслужаных пакойнікаў, дзе спачывае між іншым беларускі дзеяч і настаўнік Мікалай Самоцік.

На суседнім з гарадскім беластоцкім могільніку на Выгодзе кожны свядомы беларус знаходзіць дарогу, між іншым, да Юркі Геніюша (1935-1985) — ідучы сцежачкай за храмам убачыць цяпер не магілу каля крыжыка хлопчыка, памерлага сто гадоў раней яго — паэта і педыятра, а мармуровы бліскучы помнік з месцам на дзве асобы. А побач беларускіх слоў — здымак яго самога, маладога, элегантнага і дасціпнага пана доктара, сына Ларысы Антонаўны з Зэльвы, чый лёс адбіўся і на ягоным. Юрый Геніюш, патомны інтэлігент, адчуваўся ім і ў літаратурных творах, і ў побыце, на літаратурных сустрэчах Беларускага літаратурнага аб'яднання, якое яднала перш за ўсё тых, чый бацькоўскі парог быў у вёсцы. Так як і Міколы Гайдука (1931-1998) родам з Кабылянкі пад Міхаловам, педагога, краязнаўцы, журналіста, паэта, празаіка. Як жа шчыра і апантана адкрываў ён нам нашы мясціны і лёс! Сярод магілак блізкіх і родных пісьменніка — ружовы арыгінальны хоць невялікі крыж, ля падножжа якога, нізка, проста і ясна напісана: Мікола Гайдук. Побач яго спачыла ягоная спадарожніца жыцця таксама на беларускіх сцежках — настаўніца Лідзія Гайдук. Іншых слоў больш і не трэба. Ідучы праваруч ад магілы дзядзькі Міколы, больш у бок вуліцы Высоцкага, трапім на магілку іншага шчырага і апантанага добрым і трапным словам беларуса — вядомага журналіста Віктара Рудчыка (1934-1989), які таксама друкаваў свае апавяданні ў альманахах «Белавежы». А бліжэй да выхаду з могільніка — магіла вядомага беларускага палітыка Міколы Чарнецкага.

Сярод сваіх, беларусаў, пахавана таксама паэтэса Марыля Базылюк-Саснюк (1959-1996) родам з Кленік — у Бельску-Падляшскім. Сярод праваслаўных, ды ў Варшаве, пакоіцца паэтэса Люся Анхім (1966-2006) з Каляснога, і на два пакаленні старэйшая ад яе Алена Анішэўская родам з Белавежы. А на ляўкоўскім могільніку пасярод бору, побач з бацькамі спачыў у 2012 годзе Уладзімір Гайдук і Алёша Харкевіч. У Гайнаўцы ў роднай зямлі чакае нас Сцяпан Карбоўскі. Не ўсё яны паспелі сказаць. Сцяпан Карбоўскі, які нарадзіўся ў вёсцы Чахі-Забалотныя Гайнаўскага павета, рупны гаспадар, здольны прадпрымальнік, займаўся і замежным гандлем. Дэбютаваў у „Ніве" (1962). Пісанне адкладваў на пазней, калі ўстроіць усе сямейныя справы, паможа сынам. Пачаў пісаць у „Ніву" фельетоны, апавяданні праз сорак гадоў. І стаў спісваць успаміны са свайго турботнага і багатага жыцця. На жаль, лёс спыніў яго жыццё і планы раптоўна. Засталося няшмат у хатнім архіве гэтага выдатнага чалавека і беларуса, шчырага прыхільніка беларушчыны, таленавітага гайнавяніна з вуліцы Герояў Варшавы... Аж у Глівіцах апынуўся быў найстрэйшы «белавежац», народжаны яшчэ ў XIX стагоддзі — Антось з Лепля (Антон Васілеўскі — 1891-1984), там і пахаваны гэты вядомы празаік, паштар і прыродны медык. А ў Рагозьне пад Познанем, у 95 гадоў, спачыў адзін з заснавальнікаў беларускага літаратурнага руху ў Польшчы Алесь Свісёк (Аляксандр Батура). Некаторыя з іх спачылі далёка ад роднай зямлі, але ў зямлі якая стала іх роднай — як Ада Чачуга (1937-2008), з роду мінскіх Матусэвічаў, якая ўсё спелае жыццё была з беларускім словам у «Ніве». А Сакрат Яновіч (1936-2013) — у сваіх Крынках, Георгій Валкавыцкі (1926-2013) — у сваёй Белавежы, айцец Рыгор Сасна — у старадаўнім Бельску, Язэп Карпюк — у Сямятычах, Ніна Цыванюк — у Гарадку, Міран Хадакоўскі — у Супраслі. Імёны некаторых з іх увекавечаны на вуліцах, пляцах. Словы некаторых пабудавалі вечныя будынкі, як музей Кастуся Майсені. Не ўсе іх словы запісаны ў векапомных кнігах ці ў песні, што стала народнай. Некаторыя з іх са свайго, «нарваўскага боку», як Мікола Лук'янюк з Бялкоў, Уладзімір Клімюк з Плянты, Фёдар Хлябіч з Рыбакоў, Міхась Красоўскі з Малынкі і іншыя дакладвалі сваё важкае слова, народнае слова, да старонкі нашага тут быцця. І спрыялі ім іхнія хатнія звычайныя беларускія анёлы — як Таня Яновіч, Клаўдзія Петручук, Валя Вярбіцкая... І з родным словам у песні — як Ніна Цыванюк, Уладзімір Іванюк, Ірэна Паўлючук — усё жыццё. Засталося недаказанае — у скрутках папер, якія варта прагланьць, ураtaваць — словы ад Ніны, Сцяпана, Уладзіміра, Сакрата, Рыгора, Юркі...

Кожны з Іх, і шмат іншых, застаўся ў беларускім сузор'і і пакінуў след у каляінах нашых дарог. І ў нашым сэрцы. Не забудзьма і мы дарогі да Іх!

Міра ЛУКША

1 ☞ працяг

# Такія іншыя іконы...

больш не ўбачым тае паліхроміі — тая царква згарэла ў 1990 годзе (новая асвечана ў 1998 годзе). Навасельскі са Сталёны-Дабжанскім таксама выканалі паліхроміі першай могільнікавай царквы святога Ільі **на Дайлідах**. У 1953 г. мастак зрабіў выявы ў намагільнай капліцы Рыдыгераў. Гэтых фрэсак таксама больш не ўбачым — падчас працы па аднаўленні архітэктуры царквы ў 1963-1970 гадах былі яны замаляваны.

Творчасць багаслова і мастака Навасельскага немагчыма адарваць ад тэалогіі. Яго сяброўства з айцом Юрыем Клінгерам дае плён не толькі ў багаслоўскай дыскурсе, мастака запрашаюць да выканання першай самастойнай паліхроміі ў царкве **ў Кентшыне** (1954), дзе айцец Клінгер быў настаяцелем. Пакуль інтэр'ер запоўніцца паліхроміяй, праводзяць яны размовы пра іканаграфічную праграму інтэр'еру. Таксама пазнейшыя творы Навасельскага выяўляюць гармонію на многіх узроўнях: паслядоўнай багаслоўскай праграмы, уяўлення і ўмеласці выконвання манументальных форм, адчувальнасці да ўздзеяння колеру.

На Падляшшы ёсць некалькі месцаў, дзе ёсць праекты Навасельскага. Можаце ўбачыць у могільнікавай царкве **Усіх Святых у Гайнаўцы** іканастас яго аўтарства (1966), і ў баптыстэрыі царквы святога Архангела Міхаіла ў Бельску-Падляшскім паліхроміі выкананыя па праекце артыста (1985). Але рэалізацыі таго цалкам унікальнага праекта быў нанесены ўрон.

У 60-я гады айцец Лявонцій Тафілюк (стваральнік Іканаграфічнай школы ў Бельску-Падляшскім), які лічыць сябе вучнем Навасельскага, запрасіў майстра да запраектавання інтэр'еру і выканання іканастаса ў **царкве Ушэсця ў Арэшкаве**. Навасельскі абавязаўся арганізаваць інтэр'ер гэтага невялікага драўлянага храма. Па яго словах сцены мелі быць пакрыты шэрай тканінай, пафарбаванай ў блакітна-верасовай танацыі, а панэль — у цёмна-сіні, характэрны Навасельскаму, «мармурковы» ўзор, а столь — белая, у зоркі. Сам іканастас у рэзанансных двух колерах: дамінуючыя блакіты, праз глыбокія сапфіравыя тоны, светлыя адценні і інтэнсіўны, насычаны чырвоны колер. Іканастас не быў адобраны прыхаджанамі. Сапраўды, іконы Навасельскага не прыставалі да малюнкаў, якія ёсць у большасці храмаў на Падляшшы. Яны не мелі нічога агульнага з абразкамі часта сустраканымі ў цэрквах: іконамі далёкімі ад канону, у гладкай рэалістычнай апрацоўцы, у стылі неарасійскім, далёкім ад кананічнай апрацоўкі ікон. Айцец Лявонцій (за К. Чэрні*) гэтак успамінаў, што здарылася ў Арэшкаве: «Прафесар гэта Прафесар і ведае, што шлях да ісціны вельмі складаны. У Арэшкаве гэта была мая віна, я быў лішне ўпэўнены, што людзі прымуць гэта, я прывёз, паставіў для праверкі — і некаторыя казалі: "Як будуць такія іконы, дык мы не пойдзем у царкву!". І ўсё змянечылі... (...) Дэкор усёй царкоўкі таксама меў быць па праекце Прафесара. Было так прыгожа! А цяпер усё забілі фібралітам, а іканастас... такі ёсць, які ёсць». Ежы Навасельскі: «У апошні час, да прыкладу, настаяцель з Кленік прасіў мяне напісаць іконы для новага іканастаса. Я папярэджваў яго, што мае іконы на гэтай тэрыторыі не адабраюцца людзьмі. Настаяцель усё ж настойваў. Так я пачаў пісаць. І гэта было так, як я прадказваў — дзве іконы, якія я напісаў, сустрэліся на месцы з неадабрэннем, атрымаў я ад настаяцеля тэлефон каб спыніць працу. Гэта яшчэ адзін доказ таго, што мае іконы на гэтым абшары заўчасныя. Людзі не гатовыя да іх (...). Балюча мне больш за ўсё, што ў праваслаўных храмах у Польшчы я нічога не магу (з некаторымі выключэннямі) рабіць, а на гэтым мне найбольш залежыць. А на іншай тэрыторыі, касцельнай, хочуць майго пісання і тых праваслаўных каштоўнасцей, якія я ўяўляю» (К. Чэрні, стар. 132).

І ў 1970 годзе гайнаўскі васількова-«сапфіравы іканастас» канчаткова знайшоў сваё месца ў Кракаве ў праваслаўным прыходзе Успення Божай Маці — у капліцы-трапезнай Усіх Святых, якой інтэр'ер аздоблены насценным роспісам, зроблены Навасельскім. На самой справе, нават пасля многіх гадоў, можна сказаць, што **авангард і ікона** — рызыкоўнае спалучэнне. Але да сённяшняга працы Навасельскага з'яўляюцца свежымі, смелымі і ўнікальнымі. Атрымальнікі рэагуюць вельмі жыва. Ад захаплення да свайго роду адсутнасці разумення «такіх іншых» ікон — нягледзячы на прызнанне і славутасць мастака.

Лявон Тарасэвіч:

— Гэта быў мой майстар, вельмі важная постаць у маім жыцці. З часу нашай сустрэчы на Грабарцы я прыязджаў у Кракаў хоць на паўгадзіны, каб пагаварыць з ім — тады можна было працягваць жыць на Беласточчыне, у «варшаўцы», быць у стане ўвогуле працаваць. На маю выставу ў Кшыштафорах прыходзіў ён некалькі разоў. Пасля я атрымаў Узнагароду імя Навасельскіх. А потым, як гэта часта бывае ў жыцці, было запозна. Я ўжо меў падрыхтаваныя дошкі для ікон, якія ён меў пісаць. На жаль, ён захварэў. Да сёння я трымаю тыя дошкі дома. І гляджу на іх часта.

Прафесар Лявон Тарасэвіч выказаў думку пра стварэнне музея Навасельскага на Падляшшы. Аднак аўтарка біяграфіі мастака Крыстына Чэрні не падтрымлівае такую задуму: «На Падляшшы яго твораў мала. Яго тут не ўспрымалі, не адабралі, не падабаўся і не разумелі яго, зашмат сучаснага, авангарднага. Большасць твораў, якія рабіў тут, або засталіся на этапе праекта, або былі адкінуты, перанесены ў Кракаў. Мяркую, што яго месца — у Кракаве».

У час вернісажу выставы можна было ўбачыць прэм'еру фільма Пятра Лазовіка са здымкамі Стэфана Пархановіча «Слядамі майстроў. Навасельскі на Падляшшы», пастаўленага Згуртаваннем «Orthnet». «Гэты фільм сведчыць аб тым, што Ежы быў сярод нас і шкода, што мы не маглі гэтым скарыстацца. Такога мастака мы, праваслаўныя, будзем доўга чакаць... З падзякай Пятру і Стэфану — Лявон Тарасэвіч».

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

*K. Czerni, Nietoperz w świątyni. Biografia Jerzego Nowosielskiego, wydawnictwo Znak, Kraków 2011.

*K. Czerni, Nowosielski w Małopolsce. Sztuka sakralna, Kraków 2015, s. 124.

ISSN 0546-1960 44